Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

10 ВЕРАСЬНЯ 1928 г.

№ 10 (53)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


10 ВЕРАСЬНЯ 1928 г.

**№ 10 (53)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

# ЗЬМЕСТ

Стар.



---

## Памылкі.

У № 7 (50) Бюлэтэню СНК БССР у Інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР пра парадак разьмеркаваньня і выдаткаваньня ў БССР адлічэньняў з сродкаў дзяржаўнага страхаваньня, якія адпускаюцца на падставе арт. 59 палажэньня аб дзяржаўным страхаваньні на мерапрыемствы для папярэджаньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем, на стар. 32, у арт. 8, абзац першы, замест слоў: „... і выдаткоўваюцца беззваротнымі пазычкамі, ці ў мяшаным парадку,—часткаю дапамогамі, а часткаю пазычкамі“ трэба чытаць: ... „**і выдаткоўваюцца беззваротнымі дапамогамі, беспроцантавымі пазычкамі ці ў мяшаным парадку—часткаю дапамогамі, а часткаю пазычкамі**“.

# 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

## пра абсьледваньне лясоў мясцовага значэньня і здавальненьне вёскі драўнінаю.

### I. Па абсьледваньні лясоў.

Выслухаўшы даклад Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі пра лясы мясцовага значэньня і пра здавальненьне вёскі драўнінаю, Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Вывады НК Рабоча-Сялянскай Інспэцкыі прыняць да ведама.

2. Для лепшага вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня і ўпарадкаваньня пытаньня аб здавальненьні вёскі драўнінаю, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства пачаць шырокую распрацоўку пытаньня аб мэтазгодных формах кіраваньня і гаспадараньня лясамі мясцовага значэньня.

3. Да вырашэньня гэтага пытаньня павінен быць узмоцнены нагляд і ўдзел у справе вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня сельскіх саветаў, раённых выканаўчых камітэтаў і лясніцтваў, прычым сельскія саветы, а па мажлівасьці і раённыя выканаўчыя камітэты, павінны прыняць непасрэдны ўдзел у вядзеньні гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня; павінна быць ўстаноўлена адказнасьць у крымінальным парадку за невыстарчальны нагляд, ахову і безгаспадарнасьць у лясох мясцовага значэньня сельскіх саветаў, раённых выканаўчых камітэтаў, а таксама і лесагаспадарчых камісій, упаўнаважаных і рэвізійных камісій.

4. Народны Камісарыят Земляробства павінен прысьпешыць з распрацоўкаю новага палажэньня пра лясы мясцовага значэньня БССР і ўнесьці яго на зацьверджаньне заканадаўчых органаў не пазьней 15-га жніўня 1928 года.

Абавязаць лясныя органы пасьля зацьверджаньня палажэньня разаслаць яго ў тэрміновым парадку ўсім сельскім саветам, лесагаспадарчым камісіям і ўпаўнаважаным па лясох мясцовага значэньня.

5. Акруговыя выканаўчыя камітэты праз раённыя выканаўчыя камітэты павінны распачаць, прыцягнуўшы лясьніцтвы, правядзеньне выбараў лесагаспадарчых камісій па лясных грамадах—лесакарыстальніках (дзе яны яшчэ ня выбраны), зьвярнуўшы ўвагу на якасны падбор. Лесагаспадарчыя камісіі выбіраюцца на тэрмін 2 гады.

6. Пры наліччы сыстэматычнай парубкі лясоў і наогул няправільнага вядзеньня гаспадаркі, вучасткі лясоў мясцовага значэньня пастановаю акруговага выканаўчага камітэту павінны адбірацца ад лесакарыстальнікаў і передавацца ў непасрэднае гаспадараньне і эксплёатацыю сельскім саветам (як мясцовая маемасьць) на патрэбы насельніцтва і грамадзкія патрэбы.

7. Для ўзмацненьня ўдзелу шырокіх мас насельніцтва ў справе вядзеньня лясной гаспадаркі, трэба: усе асноўныя пытаньні кіраваньня і гаспадараньня ў лясох мясцовага значэньня, як выбары лесагаспадарчых камісій, разьмеркаваньне драўніны, зацьверджаньне такс, каштарысаў і г. д., абавязкова вырашаць на агульных сходах лесака-

рыстальнікаў з зацьверджаньнем сельскімі саветамі; лясное ведамства павінна праводзіць штогод сіламі мясцовага насельніцтва і вучнёўскай моладзі паказальныя работы па лесакультурах (пасеў, пасадка, догляд, закладка гадавальнікаў), даючы насельніцтву па магчымасьці патрэбныя саджанцы, лесакультурныя прылады і г. д.

8. Функцыі лясных і адміністрацыйных органаў у адносінах да лясоў мясцовага значэньня павінны быць разьмеркаваны наступным чынам: лясьніцтвы павінны мець сыстэматычны нагляд і дапамагаць; інспэктары па лясох мясцовага значэньня—агульна-тэхнічны нагляд, кантроль, арганізацыю; сельскія саветы павінны арганізаваць ахову, кантралююць разьмеркаваньне драўніны, непасрэдна ўдзельнічаюць ва ўсіх працэсах гаспадаркі лясоў мясцовага значэньня і кантралююць справу; раённыя выканаўчыя камітэты—ажыцьцяўляюць агульны адміністрацыйна-гаспадарчы нагляд, зьяўляючыся разам і апеляцыйнаю інстанцяю па скаргах насельніцтва.

9. Лясы мясцовага значэньня павінны рэвізавацца сельскімі саветамі ня менш аднаго разу ў год; штогод сельскія саветы павінны выслухоўваць даклады лесагаспадарчых камісій і ўпаўнаважаных па лясох мясцовага значэньня.

Абавязаць апарат ляснога ведамства (лясьнічых, інспэктароў па лясох мясцовага значэньня) узмацніць нагляд, інструктаваньне і рэвізію лясоў мясцовага значэньня, а таксама мець нагляд за вядзеньнем лесакарыстальнікамі ўстаноўленай справаздачнасьці, узяўшы на сябе задаволеньне іх кнігамі і блянкамі (за кошт лесакарыстальнікаў).

10. Лесакарыстальнікамі павінны падавацца ў сельскі савет, сельскім саветам у раённы выканаўчы камітэт, а раённым выканаўчым камітэтам у акруговы выканаўчы камітэт кароткія зьвесткі аб адпушчанай за год драўніне з лясоў мясцовага значэньня і яе разьмеркаваньні, па формах, распрацаваных Лясным Кіраўніцтвам.

11. Даручыць НКЗемляробства ўжыць належныя захады да фарсіраваньня работ па ўпарадкаваньні лясоў мясцовага значэньня, у паасобку:

а) узмацніць колькасны і якасны склад лесаўпарадчых партый;

б) максымальна спросьціць тэхнічныя працэсы ўпарадкаваньня лясоў мясцовага значэньня;

в) пры ўпарадкаваньні лясоў мясцовага значэньня мець на ўвазе ўпарадкаваньне ў першую чаргу больш каштоўных масываў у малалесных раёнах, якія знаходзяцца пад пагрозаю зьнішчэньня.

12. Адзначаючы недапушчальнасьць выпадкаў затрымкі ўручэньня лесакарыстальнікам плянаў гаспадараньня на лясы мясцовага значэньня, абавязаць органы НКЗемляробства, каб гэтыя пляны зацьвярджаліся і перадаваліся лесакарыстальнікам не пазьней 1-га мая таго аперацыйнага году, у якім скончаны палявыя работы па лесаўпарадкаваньні.

13. Для папраўленьня дапушчаных пры перадачы лясоў мясцовага значэньня памылак і для рэгуляваньня карыстаньня ў лясох мясцовага значэньня, трэба:

а) імкнуцца не да драбленьня і выдзяленьня (як гэта часта практыкавалася ў мінулым), а да аб'яднаньня разрозьненых грамад і паасобных гаспадарак, надзеленых лясамі мясцовага значэньня, у межах тэрыторыі ўсяго сельскага савету, або нават раёну;

б) практыкаваць далучэньні да грамад, якія маюць вялікую норму лясоў, бліжэйшых паасобных двароў і залюднёных пунктаў (сельскага тыпу), якія ня маюць зусім лясоў мясцовага значэньня, праводзячы загадзя адпаведную кампанію па растлумачэньні патрэбы гэтага мерапрыемства;

в) паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 20 лютага 1928 году, НК Земляробства, пры ўдзеле акруговых органаў, павінен правесьці праз раён. выкан. камітэты ў бягучым 1927/28 г. перагляд складу лесакарыстальнікаў лясоў мясцовага значэньня, для больш роўнага разьмеркаваньня апошніх, большага ахопу беднаты і зьнішчэньня дапушчаных пры передачы лясоў памылак (вялікія нормы, адзінае карыстаньне, цераспалосіца, незаключэньне дагавароў на памылкова прапушчаныя вучасткі і інш.);

г) ва ўсіх яшчэ неўпарадкаваных лясох мясцовага значэньня лясьніцтвамі неадкладна павінны быць вызначаны, хоць толькі і арыентыровачна, разьмеры карыстаньня, зрабіўшы аб гэтым адпаведныя адзнакі ў дагаворах;

д) лясныя органы, пры ўдзеле мясцовых адміністрацыйных органаў (раён. выканаўчыя камітэты, сельскія саветы), павінны ўжыць захады да ўрэгуляваньня пытаньня аб пабочных карыстаньнях у лясох мясцовага значэньня (галоўным чынам пашы і часовых с.-г. карыстаньняў (разворак), выдаўшы аб гэтым пытаньні падрабязную інструкцыю, у якой вызначыць канкрэтна нормы для кожнае грамады, і мець неаслабны нагляд за захаваньнем устаноўленага парадку.

14. Бяручы пад увагу, што ў справе задаволеньня драўнінаю сялянскіх гаспадарак маюць вялікае значэньне вучасткі лесу да 1 гэкт. (якія не ўвайшлі ў лясы мясцовага значэньня), трэба, з прычыны дэфіцытнасьці драўлянага балянсу Рэспублікі, устанавіць рэгуляваньне карыстаньня імі, для чаго: а) сіламі лясьніцтваў правесьці арыентыровачны падлік гэтых вучасткаў па кожнаму лясьніцтву, сельскаму савету і раёну для вызначэньня разьмераў магчымага карыстаньня і патрэбнага дадатковага водпуску з інш. крыніц; б) на зьмену існуючага закону, перавесьці на становішча лясоў мясцовага значэньня ўсе лясныя вучасткі, плошчаю больш $^1/_2$ гэкт., пакінуўшы за асобнымі сялянскімі гаспадаркамі толькі вучасткі менш гэтай нормы, аб чым Н. К. Земляробства павінен увайсьці з паданьнем у заканадаўчыя органы БССР.

15. Лясное ведамства павінна ў тэрміновым парадку дэтальна распрацаваць і ўнесьці на зацьверджаньне адпаведных органаў пытаньне аб скарыстаньні высокатаварнай і спэцыяльнага прызначэньня драўніны ў лясох мясцовага значэньня, а таксама ўрэгуляваць пытаньне аб карыстаньні насельніцтвам адзіночнымі дрэвамі на зямельных надзелах. Гэтая драўніна ў лясох мясцовага значэньня павінна альбо абменівацца на пароды і сартымэнты сялянскага попыту, альбо перадавацца адпаведным дзяржаўным загатоўшчыкам па ўстаноўленых на дзяржаўных дачах таксах; драўніна дробных вучасткаў, пакінутых у адзіночным карыстаньні, можа быць скарыстана лесакарыстальнікам выключна на свае патрэбы з ведама сельскага савету і з залікам у агульна-ўстаноўленую норму водпуску (без права продажу).

16. Адзначаючы, што ў мінулым наглядаўся (супроць існуючага заканадаўства) вольны продаж сялянамі самавольна сьсечаных дрэў і лесаматар'ялаў у гарадох і мястэчках БССР, што зьяўляецца адным з галоўных стымулаў разьвіцьця самавольных лясных парубак, трэба для зьнішчэньня іх:

а) абавязаць Лесбел і Лесзаг пашырыць забясьпечаньне патрэб гарадоў і мястэчак у драўніне;

б) арганізацыю і найманьне аховы (за кошт лесакарыстальнікаў) у лясох мясцовага значэньня згрупаваць у сельскіх саветах, альбо раён. вык. камітэтах, зьвярнуўшы ўвагу на якасны падбор лясной варты і аплату яе;

в) устанавіць спрошчаную форму пратаколаў па лесапарушэньнях у лясох мясцовага значэньня, забясьпечыўшы блянкамі лесагаспадарчыя камісіі, сельскія саветы, лясную варту дзяржаўных лясоў;

г) паскорыць праходжаньне спраў па лесапарушэньнях у адміністрацыйных (раён. вык. камітэты) і судовых органах, не дапушчаючы залежваньня і накапліваньня; калі немагчыма спагнаць штрафаў— замяняць іх прымусовымі работамі;

д) устанавіць паасобны падлік пратаколаў па парушэньнях у лясох мясцовага значэньня і па пакараньнях па іх;

е) Народны Камісарыят Земляробства павінен даць лесагаспадарчым камісіям клеймы (за іх кошт).

17. Запрапанаваць Нар. Камісарыяту Земляробства распрацаваць пытаньне і прадугледзець у палажэньні аб лясох мясцовага значэньня аб вышуканьні сродкаў, патрэбных на абслугоўваньне лясоў мясцовага значэньня.

18. Адзначаючы невыстарчальнасьць правядзеньня ў мінулым папулярызацыі вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня і прапаганды зацікаўленасьці самаго насельніцтва ў захаваньні лясоў мясцовага значэньня, трэба ўзмоцніць гэткую праз: а) выданьне папулярнай літаратуры, б) высьвятленьне ў пэрыядычным друку патрэбы наладжаньня (лясьнічымі, інспэктарамі па лясох мясцовага значэньня) лекцый, гутарак-нарад лесагаспадарчых камісій і ўпаўнаважаных, в) правядзеньне кампаній „Дню лесу“, паказальных перападлікаў, культур. догляду за лесам, г) арганізацыю таварыства „Прыхільнікі лесу“, д) уключэньне ў праграму сельскіх школ агульнага азнаямленьня з лясною гаспадаркаю (праз лясьнічых і іх памочнікаў).

## II. Па здавальненьні вёскі драўнінаю.

19. У адносінах да здавальненьня вёскі драўнінаю:

а) трэба ўстанавіць больш плянавае аб'яднаньне ўсяе лясной гаспадаркі рэспублікі (дзяржаўных лясоў, лясоў мясцовага значэньня і інш.) і ўвязаць плян лясной гаспадаркі з плянамі земляўпарадкаваньня, сельскага будаўніцтва, здабываньня торпу і інш.;

б) даручыць Н. К. Земляробства вывучыць пытаньне аб мэтазгоднасьці павялічэньня лясьніцтваў (лясныя гаспадаркі) і перараёнаваньня іх у большай адпаведнасьці адміністрацыйнаму раёнаваньню, як спробу, у некаторых раёнах;

в) штогадовае каштарыснае прызначэньне драўніны сялянскаму насельніцтву з дзяржаўных лясоў вызначыць па магчымасьці не па плошчы адвадзімых дзялянак, а цьвёрдаю кубатураю адпаведных сялянскаму попыту сартымэнтаў.

20. Невыстарчальнасьць драўніны, якая адпускалася сельскаму насельніцтву ў мінулым, што пакрывалася ў значнай меры самавольнымі парубкамі, высоўвае патрэбу правядзеньня наступных мерапрыемстваў:

а) дакладнага падліку магчымасьці атрыманьня драўніны з усіх крыніц: лясоў мясцовага значэньня, непадлічаных лясных плошчаў, ад расчысткі зямельных ужыткаў, ад старых пабудоў, пнёў, карчоў, хворасту, праз замену драўніны торпам, агнятрывалым будаўніцтвам і г. д.;

б) павялічэньня эксплёатацыі дзяржаўных і мясцовых лясоў праз узмацненьне прамежнага карыстаньня, догляду за лесам, больш поўнага карыстаньня мёртвым лёсам, больш рацыянальнай распрацоўкі сартымэнту, асушкі забалочаных плошчаў лесу;

в) Запрапанаваць камэрцыйным лесазагатоўшчыкам перадаваць у малалесных раёнах свае адходы драўніны для задавальненьня патрэбы сялянскага насельніцтва (з адпаведным разьлікам па папёншчыне);

таксама даручыць лесагатоўшчыкам праводзіць магчымую перакідку драўніны для задаволеньня насельніцтва ў малалесныя раёны (сплаў);

г) паклапаціцца аб больш поўным скарыстаньні лесасечных астач (не дапушчаючы спальваньня іх), а таксама і драўняных сурагатаў праз бясплатны і больш танны парадак водпуску іх насельніцтву;

д) Нар. Камісарыяту Земляробства і мясцовым органам зьвярнуць асаблівую ўвагу на выконваньне дырэктывы аб узмацненьні тэмпу агнятрывалага будаўніцтва, асабліва ў малалесных акругах і раёнах (крэдытаваньне, інструктаваньне, паказальныя мерапрыемствы і г. д.), праводзячы іх у першую чаргу ў адносінах да школ, устаноў, праз паказальныя работы для шырокіх мас насельніцтва;

е) у інтарэсах паскараньня правядзеньня земляўпарадкаваньня і больш поўнага задаволеньня драўнінаю земляўпарадкоўваючагася насельніцтва,—павінна быць хутчэй праведзена зьняцьце лесу з вучасткаў, якія пераходзяць у працоўнае карыстаньне па земляўпарадкаваньні;

і) на папаўненьне недахвату ў драўніне павялічыць водпуск драўніны насельніцтву да мінімальнай нормы за лік камэрцыйнае эксплёатацыі лясоў.

21. Для сваечасовага пачатку водпуску лесу насельніцтву, лясное ведамства павінна паклапаціцца на будучы час аб сваечасовай дачы мясцом дырэктыўных распараджэньняў, кантрольных лічбаў і канкрэтных інструкцый па водпуску лесу.

22. Ускласьці абавязак на ўсе лясныя камісіі (сельскія саветы, раён. вык. камітэты) дакладна, у адпаведнасьці з паказаньнямі інструкцыі па водпуску лесу і з сапраўднаю патрэбаю насельніцтва, і сваечасова высьвятліць на мясцох патрэбу ў драўніне, мажлівую яе колькасьць да атрыманьня з мясцовых крыніц і колькасьць драўніны, якая павінна быць адпушчана з дзяржаўных лясоў. Прадугледзець у палажэньні канкрэтную адказнасьць лясных камісій за няправільнае і больш патрэбы патрабаваньне драўніны з дзяржаўнага ляснога фонду.

23. Лічыць абавязковым, каб разьмеркаваньне драўніны сельскімі саветамі абмяркоўвалася на агульных сходах сялян і каб раён. вык. камітэты ўзмацнілі нагляд за правільным разьмеркаваньнем драўніны сельскімі саветамі, а сельскія саветы больш рашуча сачылі за скарыстаньнем на прызначэньне адпушчанай насельніцтву драўніны.

24. Устанавіць адказнасьць сельсаветаў і лясных камісій за няправільнае разьмеркаваньне драўніны, льготнага і крэдытнага фонду (незахаваньне клясавага прынцыпу, перавышэньне норм, залішняе драбленьне).

25. Ажывіць дзейнасьць лясных камісій (сельскіх і раённых) праз больш актыўны ўдзел у іх працы абавязковых прадстаўнікоў ляснога ведамства (лясьнічых, аб'ездчыкаў), зрабіўшы іх сталымі органамі.

26. Лясное ведамства павінна забясьпечыць сваечасовасьць адводаў і пералікаў дзялянак для мясцовага насельніцтва, адводзячы апошнія магчыма бліжэй да вёсак і ў большай адпаведнасьці сартымэнтам сялянскага попыту, а таксама палепшыць якасьць пералікаў і ацэнак сялянскіх дзялянак.

27. Для далейшага спрашчэньня разьмеркаваньня лесасек і палегчаньня атрыманьня насельніцтвам драўніны, трэба:

а) правесьці далейшую дэцэнтралізацыю разьмеркаваньня лесасечнага фонду для мясцовых патрэб;

б) даць акруговым выканаўчым камітэтам права самастойнага вырашэньня датэрміновага водпуску лесу пагарэльцам з наступным паведамленьнем Нар. Камісарыяту Земляробства;

в) лясьніцтвам праводзіць водпуск лесу насельніцтву ў адпаведнасьці з сьпісамі, што складаецца штогод сельскімі саветамі; вы-

дачу сельскімі саветамі паасобных пасьведчаньняў аб патрэбе ў драўніне, як правіла, забараніць;

г) забясьпечыць, як першачарговы водпуск, атрыманьне льготнага і крэдытнага лесу бяднейшаму насельніцтву;

д) устанавіць, як абавязковы парадак, водпуск лесу насельніцтву сумаю да 50 руб. у адны рукі аб'ездчыкамі (па спрошчаных ордэрах), а праз памочнікаў лясьнічых, што абавязкова жывуць у сваіх раёнах,— на неабмежаваную суму;

е) камітэтам сялянскай узаемадапамогі паклапаціцца аб аказаньні дапамогі бядняцкім гаспадаркам, у якіх няма коняй па вывазцы адпушчанай апошнім драўніны;

ж) Лесзаг павінен адпускаць распрацоўваемую ім драўніну ў першую чаргу сялянскаму насельніцтву і для патаненьня па мажлівасьці з дзялянак, не вывозячы яе на склады;

з) арганізаваць атрыманьне даведак аб парадку водпуску лесу мясцоваму насельніцтву ў сельскіх саветах, хатах-чытальнях і г. д.

28. Для сталага забясьпечаньня драўнінай далёкіх ад лесу і пагранічных з інш. рэспублікамі Саюзу вёсак, даручыць Лясному Кіраўніцтву канчаткова ўпарадкаваць пытаньне аб перакідцы ў гэтыя пункты і аб цьвёрдым забясьпечаньні з пагранічных лясьніцтваў РСФСР і УССР (на асновах узаемнасьці).

29. Даручыць Н. К. Земляробства пераглядзець існуючую штрафную таксу на самавольныя парубкі з тым, каб замест высокага аднолькавага, якое не дае належнага эфэкту, спагнаньня і незабясьпечаньня правядзеньня клясавай палітыкі, устанавіць больш рэальную таксу, якая забясьпечыла-б належную дыфэрэнцыяцыю ў залежнасьці ад стану сялянскіх гаспадарак. Праект унесьці на зацьверджаньне Эканамічнай Нарады БССР у месячны тэрмін.

30. Адзначаючы, што галоўнымі прычынамі слабага скарыстаньня лесакрэдытаў зьяўляюцца: невыстарчальнасьць папулярызацыі яго сярод нізавых органаў (сельскія саветы, камітэты сялянскай узаемадапамогі) і насельніцтва, разьмеркаваньне лесакрэдытаў пасьля разьмеркаваньня лесасечнага фонду, часам спазьненьне з разьмеркаваньнем на мясцох, неадпаведнасьць магчымасьці водпуску лесу па лясьніцтвах; драбленьне амаль што ўсюды лесакрэдыту сельскімі саветамі; складанасьць атрыманьня і г. д., — трэба, каб належныя органы, лясное ведамства, с.-г. крэдытныя ўстановы, раён. вык. камітэты і сельскія саветы прынялі пад увагу гэтыя памылкі на будучы час, забясьпечыўшы своечасовае і мэтазгоднае разьмеркаваньне лесакрэдытаў, палегчаньне ўмоў атрыманьня лесакрэдытаў (большая растэрміноўка паю), капераваньне беднаты за лік фонду беднаты, зьніжэньне працантаў за крэдыт, забясьпечаньне крэдытаў адпаведнымі сялянскаму попыту сартымэнтамі, максімальнае спрашчэньне парадку атрыманьня лесакрэдыту (водпуск непасрэдна лясьніцтвамі з пасылкай адпаведных дакумэнтаў у сельска-гаспадарчыя т-вы для афармленьня).

31. У адпаведнасьці з прынятымі прапановамі Нар. Камісарыят Земляробства павінен распрацаваць дэтальна і ўнесьці на зацьверджаньне ў адпаведныя органы патрэбныя зьмены і дапаўненьні ў існуючае заканадаўства (Лясны Кодэкс, Палажэньне аб лясох мясцовага значэньня, інструкцыі аб водпуску лесу і г. д.); таксама даць адпаведныя паасобныя пказаньні мясцовым органам.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

Сакратар Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

18 чэрвеня 1928 г.

## 2. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра тэрміны службы і нормы амартызацыі маемасьці камунальных прадпрыемстваў.

Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе зацьвердзіць наступную табліцу тэрмінаў службы і норм амартызацыі маемасьці камунальных прадпрыемстваў:

| НАЗВА МАЕМАСЬЦІ | Тэрміны службы (гады) | Нормы амартызацыі ў % % ад кошту маемасьці |
|---|---|---|
| **I. Будынкі жылыя.** | | |
| Мураваныя, бэтонныя і жалезабэтонныя | 70 | 1,5 |
| Мяшаныя | 50 | 2 |
| Драўляныя | 40 | 2,5 |
| **II. Фабрычныя, прамысловыя і гандлёвыя будынкі пры нармальных умовах эксплёатацыі.** | | |
| Мураваныя, жалезабэтонныя і жалезныя | 50 | 2 |
| Мяшаныя | 35 | 3 |
| Драўляныя бярвенчатыя | 25 | 4 |
| Дашчатыя | 15 | 17 |
| **III. Тыя-ж будынкі, што ў групе II, але ва ўмовах ненармальных, дзе зношанасьць хутчэй нармальнай.** | | |
| Мураваныя, жалезабэтонныя і жалезныя | 20 | 4,5 |
| Мяшаныя | 17 | 6 |
| Драўляныя бярвенчатыя | 15 | 7,5 |
| „ дашчатыя | 10 | 10 |
| **IV. Пад'ездныя чыгуначныя шляхі.** | 70 | 1,5 |
| **V. Фабрычна-заводзкія сілавыя ўстаноўкі.** | | |
| Мэханічнае абсталяваньне (паравыя катлы, паравыя машыны, паравыя турбіны, дзізелі, нафтавыя і газагенэратарныя рухавікі, вадзяныя рухавікі) | 17 | 6 |
| Электрычнае абсталяваньне (генэратары пераменнага і сталага току, трансфарматары, разьмеркавальнікі, акумулятары, унутраная праводка) | 17 | 6 |
| **VI. Электрычная праводка і лініі перадачы.** | | |
| Падземныя кабелі, паветраныя правады, ізалятары нізкага і высокага напружаньня, слупы | 17 | 6 |
| **VII. Трубаправодка.** | | |
| Чыгунныя | 50 | 2 |
| Жалезныя ў зямлі | 15 | 7 |
| „ ў будынках | 30 | 3 |
| Керамікавыя | 50 | 2 |
| Бэтонныя і жалеза-бэтонныя | 30 | 3,5 |
| **VIII. Арматурныя сеткі.** | | |
| Засаўкі і пажарныя краны | 40 | 2,5 |
| **IX. Басэйны і фільтры.** | | |
| Цагляныя | 50 | 2 |
| Жалеза-бэтонныя | 50 | 2 |
| Жалезныя | 50 | 2 |
| Валападпорныя вежы (бэтонныя, цагляныя і жалезныя) | 50 | 2 |

| НАЗВА МАЕМАСЬЦІ | Тэрміны службы (гады) | Нормы амартызацыі ў $^0/_0$ $^0/_0$ ад кошту маемасьці |
|---|---|---|
| **X. Помпы.** | | |
| Паравыя, прыводныя, штампавыя для сьвідраваных студняў, цэнтрабежныя, кампрэсары . . . . . . . | 15 | 7 |
| **XI. Тэхнічнае абсталяваньне.** | | |
| Пекарняў, рэзьніц . . . . . . . . . . . | 17 | 6 |
| **XII. Інвэнтар.** | | |
| Мэбля, канцылярскі інвэнтар, абсталяваньне для перавозак, дробны струмэнт, які знаходзіцца ў гаспадарцы . . . | 10 | 10 |
| Жывы інвэнтар . . . . . . . . . . . . | 8 | 12 |
| **XIII. Пабудовы.** | | |
| Грэблі, плаціны, масты, платы, брук і студні . . . . | 25 | 4 |
| **XIV. Машыннае абсталяваньне майстэрняў.** | | |
| Машыннае абсталяваньне. . . . . . . . . | 12 | 8 |
| Вадамеры . . . . . . . . . . . | 15 | 7 |
| Прывадныя рэмні . . . . . . . . . . . | 2,5 | 40 |
| **XV. Каналізацыя.** | | |
| Біалёгічныя фільтры в мэханізмам . . . . . . . | 10 | 10 |
| Бэтонныя і жалеза-бэтонныя латкі на палёх абвадненьня . | 30 | 3,5 |
| Драўляныя латкі . . . . . . . . . . . . | 3 | 35 |
| Сэптыкі . . . . . . . . . . . . . | 35 | 3 |

**XVI. Трамвайныя пабудовы.**

а) З маторнага вагону адлічваецца 2 проц. штогод незалежна ад прабегу і на кожныя пройдзеныя 100.000 вагона-кілёмэтраў 6,5 проц. ад кошту вагону.

б) З прыцепнага вагону адлічваецца 4,55 проц. штогод незалежна ад прабегу і 4,5 проц. на кожныя 100.000 вагона-кілёмэтраў з кошту вагону.

в) Па шляхох адлічваюцца 2 проц. штогод і 1,5 кошту кілёмэтру шляху на кожныя 1.000.000 тонна-кілёмэтраў.

г) Па рабочаму праваду адлічваюцца 4 проц. кошту 1 кілёмэтру праваду на кожныя 100.000 маторных вагона-кілёмэтраў.

**XVII. Для ўсіх аб'ектаў, якія не ўвайшлі ў паказаны вышэй пералік, як: для ўсіх відаў аўтамабіляў і інш., тэрміны службы і нормы амартызацыйных адлічэньняў устанаўляюцца мясцовымі органамі.**

**XVIII. Амартызацыйныя адлічэньні з маемасьці, якая знаходзіцца ў кансэрвацыі, а таксама за час бязьдзейнасьці прадпрыемства звыш нармальнага прастою,—ня робяцца.**

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў СНК і Эканамічнай Нарады
БССР **М. Мароз.**

23 ліпеня 1928 г.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суда БССР

**пра правы юрысконсультаў чужаземных консульстваў выступаць у судовых установах БССР у якасьці прадстаўнікоў сваіх консульстваў і паасобных грамадзян адпаведнай дзяржавы.**

*Усім акруговым і народным судом.*

Па пытаньні аб тым, ці маюць права юрысконсульты чужаземных консульстваў, якія існуюць на тэрыторыі БССР, выступаць у судовых установах Рэспублікі ў якасьці прадстаўнікоў сваіх консульстваў і паасобных грамадзян адпаведнай чужаземнай дзяржавы, Народны Камісарыят Юстыцыі і Найвышэйшы Суд Рэспублікі растлумачваюць наступнае:

1. У якасьці прадстаўнікоў сваіх консульстваў юрысконсульты чужаземных консульстваў маюць права выступаць толькі па тых справах, у якіх стараной зьяўляецца само адпаведнае чужаземнае консульства, як юрыдычная асоба.

2. У якасьці прадстаўнікоў паасобных грамадзян адпаведнай чужаземнай дзяржавы юрысконсульты чужаземных консульстваў маюць права выступаць у судовых установах Рэспублікі толькі на падставе даверанасьці той асобы, якая ўпаўнаважвае юрысконсульта на абарону яе інтарэсаў, але ў гэткіх выпадках суд можа, на падставе п. „г“, арт. 16 ГПК і арт. арт. 51-53 КПК, дапусьціць або не дапусьціць юрысконсульта чужаземнага консульства да выступленьня па данай справе, калі ён не зьяўляецца членам калегіі абаронцаў або блізкім сваяком асобы, інтарэсы якой ён абараняе. Паказаньне ў гэткіх выпадках юрысконсультам суду асобнага пасьведчаньня чужаземнага консульства аб тым, што яно даручае або ўпаўнаважвае свайго юрысконсульта абараняць інтарэсы адпаведнай асобы, ня мае значэньня для суда і не адхіляе права суда, паказанага ў адзначаных вышэй артыкулах, дапусьціць або не дапусьціць юрысконсульта да выступленьня па данай справе.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Я. Бутар.**

За Старшыню Найвышэйшага Суда БССР **Баранаў.**

11 жніўня 1928 г.
№ 70.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак уносаў, хаваньня і выдачы сум кватэрнай платы, якія ўносяцца наймальнікам, на падставе артыкулу 116 Грамадзянскага Кодэксу БССР.**

Для разьвіцьця ўвагі 2 да арт. 116 ГК БССР, НК Юстыцыі і НК Фінансаў БССР пастанаўляюць:

1. У выпадках, паказаных у арт. 116 ГК БССР, даўжнік—кватэранаймальнік мае права ўнесьці належачую з яго суму кватэрнай платы ў дзяржаўную ашчадную касу на месцы выкананьня дагавору найманьня.

2. Пры ўносе грошай даўжнік вусна альбо пісьмова паказвае: а) сваё імя, прозьвішча і адрэс,

б) імя, прозьвішча і апошні адрэс асобы (фізічнай альбо юрычнай), для якой уносяцца грошы,

в) прычыны, па якіх кватэрная плата не магла быць перадана наймадаўцу (напрыклад: адсутнасьць яго, адмова прыняць грошы і г. д.).

3. Службовая асоба, якая прымае грошы, запісвае заяву асобы, што ўносіць грошы (арт. 2), падпісвае яе і дае на подпіс заяўніку. Копія заявы з паказаньнем разьмеру ўнесянай сумы з пячаткаю і подпісам службовай асобы выдаецца заяўніку, які ўнёс грошы.

4. Унесяныя грошы ашчадная каса залічвае на бяспроцантавы бягучы рахунак тых асоб ці ўстаноў, на карысьць якіх грошы ўнесены.

5. Не пазьней 2-га дня пасьля прыняцьця грошай, дзяржаўная ашчадная каса пасылае асобе ці ўстанове, на імя якой паступіла ў касу кватэрная плата, паведамленьне аб тым, якая сума і калі залічана на асабісты бягучы рахунак данае асобы, кім і па якіх прычынах (арт. 2) гэтая сума ўнесена. У паведамленьні павінна быць паказана, што залічаныя на асабісты бягучы рахунак данае асобы ці ўстановы грошы праз 2 гады пасьля моманту ўручэньня паведамленьня будуць пералічаны ў прыбытак дзяржавы.

6. Залічаныя на бяспроцантавы бягучы рахунак (арт. 4) грошы выдаюцца ашчаднаю касаю ўласьніку гэтага рахунку па паказаньні ім паведамленьня (арт. 5) і дакумэнтаў, якія сьведчаць яго асобу. Па заяве ўласьніка бяспроцантавага бягучага рахунку залічаныя на гэты рахунак сумы могуць быць пералічаны на другія рахункі ці пераведзены ў іншыя ашчадныя касы.

7. Унесяныя сумы могуць быць выданы ашчаднаю касаю асобе, іх унёсшай, толькі са згоды асобы ці ўстановы, для якой яны ўнесяны, альбо на падставы постановы суда.

8. Пералічэньне сум з асабістых бяспроцантавых бягучых рахункаў (арт. 5) робіцца 2 разы ў год у тэрміны і ў парадку, якія ўстанаўляюцца Народным Камісарыятам Фінансаў БССР.

9. З часу выданьня гэтай пастановы павінны быць пералічаны ў дзяржаўныя ашчадныя касы ўсе сумы кватэрнай платы, якія былі ўнесяны раней у дэпазыт суда на падставе арт. 116 Грамадзянскага Кодэксу і арт. арт. 237—242 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

13 жніўня 1928 г.
№ 71.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра прыйманьне на работу падлеткаў у парадку броні, звышброні і ў школы прафэсіянальнага тыпу.

*Усім акруговым інспэкцыям працы.*

Ёсьць выпадкі прыйманьня на работу падлеткаў у парадку броні, звышброні і ў школы прафэсіянальнага тыпу не праз біржы працы.

Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе, што ў паказаных вышэй выпадках прыйманьне на працу робіцца толькі праз біржу

працы ў адпаведнасьці з арт. 6 „Палажэньня пра сэкцыі найманьня падлеткаў", зацьверджанага Народным Камісарыятам Працы СССР 30/XII 1924 г. № 494/303 („Известия НКТруда 1925 г. № 1").

Інспэкцыям працы прапануецца наглядаць за няўхільным выкананьнем гэтага абежніку, і асоб, якія наймаюць падлеткаў не праз біржы працы, прыцягваць да адказнасьці.

За Народнага Камісара Працы БССР **С. Мышалаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена з ЦСПСБ:
Нам. Заг. АТЭ ЦСПСБ **З. Каган.**

31 ліпеня 1928
№ 50.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра прыняцьце назад на пасаду асоб, адноўленых паводле пастаноў канфліктных альбо судовых органаў.

У сувязі з маючыміся непаразуменьнямі пры прыняцьці назад на пасаду асоб, адноўленых паводле пастаноў канфліктных (расцэначна-канфліктныя камісіі, міравыя камэры, пасрэдніцкія суды), альбо судовых органаў, Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

I. Асобы, адноўленыя на пасадзе паводле пастаноў канфліктных альбо судовых органаў, ня могуць зноў звальняцца без выкананьня пастаноў гэтых органаў аб прыняцьці назад на пасаду і аплаты за прагул у належных выпадках.

II. Паўторнае звальненьне гэтых асоб дазваляецца толькі пры наяўнасьці новых падстаў для звальненьня паводле арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы, якія ня маюць сувязі з звальненьнем, прызнаным паказанымі ў п. 1 пастановамі няправільным, прычым у такіх выпадках аплата павінна рабіцца па дзень звальненьня па новай прычыне.

*Увага.* У паказаных у гэтым артыкуле выпадках звальненьне можа быць абскарджана ў звычайным парадку ў канфліктныя альбо судовыя органы.

III. Парушэньне гэтай пастановы выклікае адказнасьць у крымінальным парадку.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

4 жніўня 1928 г.
№ 52.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра адказнасьць наймальнікаў за парушэньне пастановы Н. К. Працы БССР „Пра парадак найманьня і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“.**

Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. За парушэньне пастановы Н. К. Працы БССР за 1 красавіка 1927 г. № 50 „Пра парадак найманьня і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“ (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 7) наймальнікі прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым і адміністрацыйным парадку ў адпаведнасьці з пастановай СНК БССР за 7 ліпеня 1926 г. „Пра адказнасьць наймальнікаў за нарушэньне „Часовых Правіл“ за 18 красавіка 1925 г. „Аб умовах ужываньня дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках, і інструкцыі да гэтых правіл за 12 жніўня 1925 г.“ (З. З. БССР 1926 г., № 30, арт. 113).

2. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца арт. 23 паказанай вышэй пастановы Н. К. Працы БССР за 1 красавіка 1927 г. № 50.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

7 жніўня 1928 г.
№ 53.

---

## 8. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Працы, Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы ў раёнах і сельскіх мясцовасьцях.**

Для разьвіцьця разьдзелу XVI Код. Зак. аб Працы, у адпаведнасьці з арт. 89 пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 сьнежня 1927 г. „Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовае ўлады“ (З. З. БССР 1928 г. № 6, арт. 36) і арт. 28 пастановы СНК БССР за 12 жніўня 1925 г., „Пра зацьверджаньне інструкцыі да часовых правіл аб ужываньні дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. БССР 1925 г., № 42, арт. 351), Народныя Камісарыяты Працы, Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР устанаўляюць наступны парадак вырашэньня працоўных спрэчак у раёнах і сельскіх мясцовасьцях:

*А. Пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках.*

1. Спрэчкі, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы батракоў і пастухоў, пра ўстанаўленьне ўмоў найму (заключэньне дагавору) альбо пра зьмену ўмоў устаноўленых раней як пісьмовымі, так і вуснымі дагаворамі, а таксама пра парадак разрахункаў па дагавору разглядаюцца ў міравых камісіях, якія арганізуюцца пры раённых выканаўчых камітэтах, альбо пры сельскіх саветах.

*Увага.* Усе іншыя справы, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках, вырашаюцца толькі ў судовым парадку.

2. Вусная альбо пісьмовая заява аб жаданьні перадаць спрэчку на вырашэньне міравой камісіі падаецца аднэй з старон у раённы

выканаўчы камітэт, а ў тых мясцовасьцях, дзе міравыя камісіі арганізаваны пры сельскіх саветах,—у сельскі савет.

3. Раённы выканаўчы камітэт ці сельскі савет, пасьля атрыманьня заявы аб разглядзе спрэчкі ў міравой камісіі, назначае пасяджэньне з тым, каб справа разглядалася ў міравой камэры пры раён. вык. камітэце не пазьней 7-мі дзён, а пры сельскім савеце—не пазьней 5-ці дзён ад дня атрыманьня заявы. Аб дні пасяджэньня міравой камісіі стораны абвяшчаюцца пісьмова і пад расьпісу з такім разьлікам, каб павесткі былі атрыманы не пазьней, як за два дні да пасяджэньня камісіі.

4. Старшынёй міравой камісіі пры раён. вык. камітэце зьяўляецца раённы ўпаўнаважаны па працы і сацыяльным страхаваньні (а дзе іх няма—член прэзыдыуму раён. вык. камітэту), а пры сельскіх саветах—старшыня сельскага савету.

5. Членамі міравой камісіі зьяўляюцца: ад батрака—прадстаўнік Прафэсіянальнага Саюзу Сельска-Гаспадарчых і Лясных Рабочых, альбо ён сам, а ад наймальніка—ён сам, альбо яго ўпаўнаважаныя.

*Увага 1.* Пытаньне аб паўнамоцтвах прадстаўнікоў старон вырашаецца перад адчыненьнем пасяджэньня міравой камісіі.

*Увага 2.* Упаўнаважаны наймальніка павінен мець адпаведнае паўнамоцтва, якое даецца наймальнікам альбо вусна перад пасяджэньнем камісіі, з запісаньнем у пратакол, альбо ў пісьмовай форме.

6. Калі наймальнік не зьявіцца на разгляд канфлікту без заслугоўваючых увагі прычын, то старшыня міравой камісіі перадае справу ў суд і можа пачаць справу аб накладаньні на наймальніка штрафу ў парадку арт. 2 пастановы СНК БССР за 7 ліпеня 1926 г. „Аб адказнасьці наймальнікаў за нарушэньне часовых правіл за 10 красавіка 1925 г. аб умовах ужываньня дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках і інструкцыі да гэтых правіл за 12 жніўня 1925 г.“ (З. З. БССР 1926 г., № 30, арт. 113).

*Увага.* У выпадку нязгоды наймальніка на прымірэньне, калі прапановы наймальніка пагаршаюць становішча, устаноўленае адпаведнымі законамі, справа перадаецца старшынёй міравой камісіі ў суд.

7. Калі стораны да разгляду справы памірыліся, то яны павінны паведаміць аб гэтым старшыню міравой камісіі.

8. Усе спрэчкі, перададзеныя ў міравую камісію, вырашаюцца толькі па згодзе старон. Старшыня міравой камісіі ня мае пастаноўчага голасу, а толькі кіруе пасяджэньнем і дапамагае сторанам прыйсьці да згоды па ўсіх спрэчных пытаньнях і сочыць за тым, каб у прынятай згодзе ня было парушэньня дзейнага заканадаўства. Калі-ж згода паміж старанамі дасягнута ня будзе, то спрэчка лічыцца нявырашанай і можа быць перададзена кожнай з старон у суд.

9. Калі ў міравой камісіі разглядаецца некалькі пытаньняў і па некаторых з іх стораны прыйшлі да згоды, то яны абавязковы для старон; нявырашаныя-ж пытаньні могуць быць перададзены ў суд паводле артыкулаў 6 і 8 гэтай інструкцыі.

10. Пасяджэньні міравой камісіі бываюць адкрытымі і на іх абавязкова прысутнічае зацікаўлены батрак.

Незалежна ад колькасьці прысутных стораны маюць толькі па аднаму голасу.

11. На кожным пасяджэньні міравой камісіі павінен пісацца пратакол (паводле далучанай пры гэтым формы). Арыгінал пратаколу

знаходзіцца ў тым органе, у якім вырашана справа; сторанам-жа выдаюцца, па іх патрабаваньні, пасьведчаныя копіі.

12. Усе дасягнутыя міравой камісіяй згоды запісваюцца ў пратакол на тым пасяджэньні, па якім была дасягнута згода, і зараз падпісваюцца старанамі.

13. Пастановы міравой камісіі зьяўляюцца канчатковымі. Калі яны пярэчаць дзейнаму заканадаўству, то яны могуць быць скасаваны сельска-гаспадарчымі альбо праўнымі інспэктарамі ў 6-ці месячны тэрмін з дня вынясеньня пастановы як па скаргах зацікаўленых асоб, органаў Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Пракуратуры і прафэсіянальных саюзаў, так і ў парадку нагляду.

Пры скасаваньні незаконных пастаноў міравых камісій, справа можа быць аднэй з старон альбо інспэктарам працы зноў перададзена ў міравую камісію альбо ў суд.

14. Калі наймальнік адмаўляецца дабравольна выканаць падпісаную ім згоду, то раённы выканаўчы камітэт (альбо сельскі савет) альбо орган Прафэсіянальнага Саюзу Сельска-Гаспадарчых і Лясных Рабочых перадае афіцыйна пасьведчаную копію дасягнутай у міравой камісіі згоды разам з усімі матар'яламі па гэтым канфлікце ў народны суд. Народны судзьдзя, упэўніўшыся ў тым, што пастанова міравой камісіі не пярэчыць дзейнаму заканадаўству і што справа падсудна міравой камісіі, выдае выканаўчы ліст, на падставе якога пастанова выконваецца паводле Грам. Працэсуальнага Кодэксу.

*Увага.* Адмаўленьне народнага судзьдзі выдаць выканаўчы ліст можа быць абскарджана спаганяючай асобай у парадку арт. 233 ГПК.

15. Спрэчкі, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовае працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, вырашаюцца ў адпаведнасьці з гэтай інструкцыяй, прычым прадстаўнікамі грамады зьяўляюцца ўпаўнаважаныя, якія выбіраюцца паводле арт. 5 пастановы Н. К. Працы БССР за 1 красавіка 1927 г. № 50 (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 7).

*Б. Пра парадак вырашэньня іншых канфліктаў у раёнах і сельскіх мясцовасьцях.*

16. Усе канфлікты, якія ўзьнікаюць у раёнах і сельскіх мясцовасьцях у прадпрыемствах, установах і гаспадарках, у якіх працуе менш 5 рабочых і служачых, вырашаюцца ў міравых камісіях у парадку гэтае інструкцыі, прычым членам міравой камісіі ад працоўнага зьяўляецца прадстаўнік адпаведнага прафэсіянальнага саюзу.

*Увага 1.* Пры разглядзе паказаных у гэтым арт. канфліктаў ня ўжываюцца арт. 6 і ўвага да яго гэтай інструкцыі з тым, што, калі стораны не зьявяцца на разгляд канфлікту, справа кожнай з старон можа быць перададзена ў суд.

*Увага 2.* Пры разглядзе спрэчак, якія ўзьнікаюць у сялянскіх гаспадарках прамысловага тыпу, прыметы якіх вызначаны пастановай СНК БССР за 29 сакавіка 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 13, арт. 114), старшыні міравых камісій павінны строга кіравацца Кодэксам Законаў аб Працы.

17. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуюцца: а) Інструкцыя Н. К. Працы, Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі за 21 красавіка 1925 г. „Аб парадку вырашэньня працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. БССР 1926 г., № 5, арт. 19), б) арт. 2 пастановы Н. К. Працы і Н. К. Унутраных Спраў БССР за 18 красавіка 1927 г., № 56, „Аб

парадку разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовае працы ў раёнах і сельскіх мясцовасьцях“ (Бюл. СНК БССР 1927 г. № 12), в) увага 2 да арт. 1 пастановы НКП БССР за 4 жніўня 1927 г. № 74 „Аб парадку разгляду працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы для асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і“ (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 14).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Узгоднена з ЦСПСБ: Нам. Заг. АТЭ **З. Каган.**

13 жніўня 1928 г.
№ 54.

---

**Дадатак.**

Узор пратаколу пасяджэньня міравой камісіі.

## ПРАТАКОЛ

Пасяджэньня міравой камісіі пры . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . за . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Перад пасяджэньнем камісіі ўстаноўлена, што канфлікт перададзены на вырашэньне міравой камісіі па згодзе старон. Да вырашэньня міравой камісіі належаць наступныя пытаньні (дакладна пералічыць, якія пытаньні) . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паўнамоцтвы членаў міравой камісіі да пасяджэньня праверены старшынёй міравой камісіі і былі правільнымі.

У пасяджэньні ўдзельнічалі *):
ад працоўнага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„ наймальніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Старшыня міравой камісіі

1. Заява працоўнага (запісаць прапанову)
2. Заява прафэсіянальнага саюзу (запісаць прапанову)
3. Заява наймальніка (запісаць прапанову)
4. Прапанова старшыні міравой камісіі (калі такая зроблена на пасяджэньні).

Пастанавілі:

Пасьля разгляду пытаньня стораны прыйшлі да наступнай згоды (запісаць сутнасьць згоды) . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Старшыня камісіі (подпіс)

Прадстаўнік саюзу (подпіс)

Наймальнік (подпіс)

---

*) Калі на пасяджэньні прысутнічалі сьведкі, дык аб гэтым адзначаецца ў пратаколе і паказаньні іх запісваюцца ў пратакол.

Згода, якая запісана ў пратакол, абавязкова падпісваецца зараз-жа пасьля пасяджэньня.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра прыцягненьне жанчын да ўдзелу ў рабоце зямельных камісій.**

*Раённым выканаўчым камітэтам БССР (па зямельнай частцы).*

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР на сваім пасяджэньні за 14 чэрвеня г. г., выслухаўшы даклады Народных Камісарыятаў Асьветы, Аховы Здароўя і Земляробства аб праведзеных імі мерапрыемствах, у выкананьне пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 22 сьнежня 1927 г. „Пра вынікі зьездаў работніц і сялянак", запрапанаваў ведамствам у бліжэйшы час паставіць у парадак дня пытаньне аб практычным ажыцьцяўленьні пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту аб працы сярод жанчын.

Бяручы пад увагу, што ў галіне вылучэньня жанчын на кіруючую савецкую работу вельмі карысным можа быць удзел іх у рабоце зямельных камісій, бо пры вырашэньні складаных адносін у сялянскай сям'і і гаспадарцы патрэбна вялікая чуткасьць і разуменьне ўмоў быту, Народны Камісарыят Земляробства прапануе раённым выканаўчым камітэтам пры правядзеньні кампаніі па папаўненьні складу раённых зямельных камісій членамі, якія выбіраюцца раённым зьездам саветаў, высоўваць ня толькі мужчынскія, але і жаночыя кандыдатуры з ліку асоб, падрыхтаваных да судова-савецкай работы і добра праявіўшых сябе на грамадзкай рабоце.

Таксама ў тых раёнах, дзе арганізуюцца суды пры сельскіх саветах, прапануецца ў лік членаў гэтых судоў уключаць і найбольш актыўных жанчын.

Народны Камісар
Земляробства БССР **Зьм. Прышчэпаў.**

Старшыня Асобнай Калегіі
Вышэйшага Кантролю **Я. Лабаноўскі.**

20 ліпеня 1928 г.
№ 11.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра зьнішчэньне недахопаў у спагнаньні зямельнымі камісіямі судовых збораў.**

*Зямельным камісіям БССР.*

Акруговыя фінансавыя аддзелы пры рэвізіі імі ў бягучым годзе зямельных камісій у адносінах да вылічэньня і спагнаньня судовых пошлін высьветлілі несваечасовую здачу збораў у касы Народнага Камісарыяту Фінансаў, неспагнаньне збораў, няправільнае вылічэньне судовых пошлін і вызваленьне ад іх старон без належных дакумэнтаў. Апроч таго, высьветлілася нездавальняючае паступленьне судовых пошлін па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства.

Паводле інструкцыі НКЗ, НКЮ, НКФ і НКУС за 20 мая 1926 г. пра парадак спагнаньня судовых збораў зямельнымі камісіямі, у прыбытак скарбу па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства залічаецца судовая пошліна, якая спаганяецца з касацыйных скарг на рашэньні акруговых зямельных камісій па справах, разгледжаных імі ў якасьці першай інстанцыі.

Такім чынам паступленьне судовых пошлін у прыбытак скарбу павінна быць ва ўсіх акругах. Між тым за першае паўгодзьдзе г. г. зусім ня было паступленьня судовай пошліны ў Магілеўскай, Менскай

і Полацкай акругах, а паступленьне ў іншых акругах было стракатае: у Бабруйскай акрузе—1143 р., у Аршанскай, Гомельскай і Мазырскай—менш 100 руб. у кожнай акрузе, што ня можа лічыцца нармальным.

Для зьнішчэньня адзначаных недахопаў у спагнаньні судовых збораў, Народны Камісарыят Земляробства прапануе наступнае:

1. Зямельная камісія пры падачы стараною заявы ці скаргі павінна вылічыць разьмер судовай пошліны на дакладнай падставе артыкулаў 2—7 інструкцыі за 20 мая 1926 г. і выдаць старане даведку ці выплатнае абвяшчэньне, пры якіх пошліна ўносіцца стараною ў касу Народнага Камісарыяту Фінансаў. Сама-ж зямельная камісія не мае права атрымоўваць ад старон пошліну, а тым больш трымаць яе ў сябе па некалькі тыдняў.

2. Толькі канцылярскі збор, паводле арт. 21 названай інструкцыі, спаганяе сама зямельная камісія і ўносіць яго кожны месяц у касу Народнага Камісарыяту Фінансаў.

3. Судовая пошліна, якая паступае са скарг на рашэньні акруговай зямельнай камісіі па справах, разгледжаных ёю ў якасьці першай інстанцыі, дзеліцца папалам. Адна частка залічаецца ў мясцовыя сродкі, а другая ў прыбытак скарбу. Аб гэтым трэба абавязкова адзначыць у выплатным абвяшчэньні, каб грошы залічваліся касаю акруговага фінансавага аддзелу па належнасьці. Пошліна-ж па іншых справах цалком ідзе ў мясцовыя сродкі.

4. Калі зямельная камісія прызнае магчымым звольніць старану па справе ад выплаты судовай пошліны, аб гэтым робіцца камісіяю пастанова. Апошняя павінна грунтавацца на верагодных довадах пра незаможнасьць стараны. Довадамі могуць быць пасьведчаньні і даведкі савецкіх установ і грамадзкіх арганізацый, а таксама пратаколы паказаньняў сьведак.

Народны Камісар
Земляробства БССР **Зьм. Прышчэпаў.**

Старшыня Асобнай Калегіі
Вышэйшага Кантролю **Я. Лабаноўскі.**

24 ліпеня 1928 г.
№ 12.

---

Выдадзены паводле арт. 13 іў разьвіцьцё арт. арт. 12—14 Вэтэрынарнага Статуту БССР і ў разьвіцьцё арт 1, п. „е“, пастановы СНК БССР аб санітарных органах НКАЗ БССР за 23-XI 1926 году.

## 11. Правілы пра парадак адводу і ўтрыманьня жывёльных могілак і закопваньне трупаў здохшай жывёлы на абшарах БССР.

§ 1. Усе трупы хатняй жывёлы, незалежна ад таго, ад якой хваробы, г. з. заразнай або незаразнай, яна здохла, павінны закопвацца на спэцыяльна адведзеных мясцох—жывёльных могілках; на гэтых-жа мясцох павінна, калі гэта трэба, і забівацца хворая жывёла.

*Увага.* Здохшыя ад заразных хвароб птушкі, якія зьяўляюцца небясьпечнымі ў распаўсюджваньні гэтых хвароб, закопваюцца таксама паводле § 1.

§ 2. Ўва ўсіх гарадох і паселішчах БССР павінны быць адведзены здалёк ад жылья, выганаў, пашы, дарог, рэчак, азёр, асабліва ад вадазбораў піцьцявой вады для людзей, і па магчымасьці на

ўзгорках, сухіх мясцох, патрэбныя для жывёльных могілак вучасткі зямлі, якія, каб не дапушчаць да іх хатняй жывёлы, павінны быць адгароджаны плотам, ці абкопаны канавай глыбінёю і шырынёю ня менш $1^1/_2$ мэтра, прычым земляны вал, які адмяжоўвае могілкі, павінен знаходзіцца на ўнутраным краі канавы. Для ўезду на тэрыторыю жывёльных могілак павінны быць зроблены вароты, якія можна было-б зачыняць.

*Увага.* Сумежныя паселішчы і ўласьнікі, якія карыстаюцца асобнымі хутарскімі гаспадаркамі, могуць мець па ўзаемнай згодзе адны супольныя могілкі, утрыманьне якіх ў належным відзе знаходзіцца на іх абавязках.

§ 3. Адвод месца для закопваньня трупаў здохшай і забітай жывёлы і птушак, а таксама адгароджваньне плотам ці ровам ускладаецца ва ўсіх гарадох і залюднёных пунктах на гарадзкія саветы, раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы, а ў гаспадарках, што знаходзяцца ў карыстаньні паасобных асоб, арэндатараў, каперацыйных арганізацый і савецкіх гаспадарак—на кожнага па належнасьці пад агульным наглядам мясцовых вэтэрынарных і мэдыка-санітарных органаў.

*Увага.* Пры правядзеньні ўнутрыпаселішчнага земляўпарадкаваньня на мясцох, трэба адвозіць патрэбныя вучасткі зямлі для жывёльных могілак.

§ 4. Закопваньне трупаў ва ўсіх гарадзкіх, а таксама сельскіх мясцовасьцях, дзе няма спэцыяльных установаў для закопваньня трупаў (асобных абозаў і інш.), ускладаецца на саміх гаспадароў здохшай жывёлы, прычым кожны гаспадар здохшай жывёлы ў тых мясцох, дзе няма памянёнай вышэй установы, павінен заяўляць кожны раз аб выпадку паморку на яго жывёлу ўстановам, пералічаным ў § 3 гэтых правілаў. Калі-ж ёсьць установы для закапваньня трупаў, то аб паморку на жывёлу гаспадар павінен паведаміць беспасрэдна ў гэтую ўстанову.

§ 5. На жывёльных могілках усе трупы здохшай жывёлы павінны закопвацца ў зямлю на глыбіні ня менш двух мэтраў, альбо спальвацца. Пакідаць трупы на дварох, альбо іншых мясцох, скідаць іх у рэчкі і азёры—забараняецца.

*Увага.* Трупы здохшай ад заразных хвароб жывёлы закопваюцца разам з скураю, пры чым скура на трупе павінна быць асмолена альбо парэзана, каб, такім чынам, яе папсаваць; трупныя-ж выдзяленьні, астача гною і верхні пласт зямлі, дзе ляжаў заразны труп, павінны быць таксама закапаны разам з самым трупам.

§ 6. Магілы на жывёльных могілках капаюцца ў рад на адлегласьці ня менш $1^1/_2$ мэтра адна ад другой, прычым верхні пласт іх засыпаецца зямлёю на вышыню ня менш $^1/_2$ мэтра.

§ 7. У пачатку вясны, перад выганам жывёлы на пашу, павінен быць зроблен сельскаю ўладаю, альбо пад яе наглядам і адказнасьцю, старанны абгляд—ці ня валяюцца дзе на пашы і на дарогах да пашы трупы жывёлы альбо астачы ад іх; такія, калі яны будуць выяўлены, павінны быць сабраны і закапаны, альбо спалены; могілкі, якія аселі або абсыпаліся, трэба зноў засыпаць і ўтрамбаваць, а папсаваныя платы і канавы могілак трэба паправіць.

§ 8. Старыя пакінутыя могілкі, якія былі прызнаны з якой-небудзь прычыны нявыгаднымі для закапваньня трупаў жывёлы, павінны быць таксама адгароджаны плотам альбо канавай.

§ 9. Забараняецца пасьвіць жывёлу на могілках і зьбіраць на іх траву.

§ 10. Жывёльныя могілкі, нават старых гадоў, сурова забараняецца раскопваць для зьбіраньня касьцей, рагоў і капытоў.

§ 11. У часе перавозкі пад трупы падкладваецца мяккая салома, якая павінна ўбіраць у сябе сукравіцу, што выцякае з наздроў, роту і задняга праходу, а таксама гной, што выцякае з наздроў і скураных балячак; ад мух труп павінен накрывацца старым палатном, альбо радзюгаю; падсьцілка не павінна раструшвацца дарогаю, а на могілках яна, як і пакрывала, спальваецца альбо скідваецца ў яму. Калёсы ці сані, на якіх труп перавозіцца, павінны быць прадэзынфэктаваны— павінны абмывацца гарачым зольным лугам ці рашчынаю вапны.

*Увага*. Калі перавозкаю трупаў займаецца спэцыяльная ўстанова, то яна павінна мець для гэтай мэты асобныя калёсы і сані і спэцыяльна адведзенае для іх месца па паказаньні вэтэрынарнага і мэдыка-санітарнага нагляду.

§ 12. Для кожнага трупа павінна быць выкапана асобная яма, але калі ў адзін дзень будзе некалькі трупаў, дык можна класьці іх ў адну супольную яму, але ні адзін на другі, а ў рад па аднаму і з той абавязковаю ўмоваю, каб яма ў той-жа самы дзень была закапана. Пры гэтым яму ня трэба завальваць хворастам і гальлём ў перамешку з зямлёю, а трэба яе засыпаць аднэю толькі зямлёю і шчыльна ўтрамбаваць.

§ 13. Калі трупы здохшай ад заразнай хваробы жывёлы будуць забраны, то трэба, паводле вызначэньня вэтэрынарнага нагляду, зрабіць дэзынфэкцыю памяшканьняў і прадметаў, якія датыкаліся з хвораю жывёлаю, пры чым тыя прадметы, якія ня могуць быць абязшкоджаны,—спальваюцца.

§ 14. Скарыстаньне часьцей трупаў: скур, капытоў, рагоў, хвастоў, валасоў, шчаціны, шэрсьці і інш. пры заразных хваробах, сурова забараняецца.

§ 15. У мясцох, дзе знаходзяцца ўтылізацыйныя заводы, адчыненыя з належнага дазволу і прыстасаваныя да бясьпечнай ў санітарных адносінах апрацоўкі трупаў, апошнія ад жывёлы, здохшай ад незаразных, а таксама і заразных хвароб, могуць скарыстоўвацца для тэхнічных мэтаў паводле распараджэньня вэтэрынарнага нагляду.

§ 16. Асобы, якія маюць дачыненьне да заразных трупаў і калі па роду інфэкцыі гэты труп небясьпечны і для людзей, павінны мэдыка-санітарнаю і вэтэрынарнаю арганізацыяю папярэджвацца і інструктавацца аб папяраджальных ў гэтых адносінах мерах.

§ 17. Нагляд за выкананьнем гэтых правілаў ускладаецца на сельскія органы і міліцыю пад агульным наглядам вэтэрынарнай і мэдыка-санітарнай арганізацыі. Асобы, вінаватыя ў парушэньні паказаных вышэй правілаў, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. 86 і 219 Крымінальнага Кодэксу.

§ 18. Для разьвіцьця і ўдакладненьня гэтых правілаў акруговыя выканаўчыя камітэты і раённыя выканаўчыя камітэты выдаюць абавязковыя пастановы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў**.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў**.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль**.

24 ліпеня 1928 г.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра скасаваньне паляўніцкага заказьніку ў Цэльскім лясьніцтве і пра ўтварэньне паляўніцкіх заказьнікаў у Лапіцкім і Вязкім лясьніцтвах Бабруйскай акругі.**

Народны Камісарыят Земляробства БССР, разглядзеўшы хадайніцтва Беларускага Капэрацыйна-Прамысловага Саюзу Паляўнічых за 31 мая 1928 г. № 594 пра скасаваньне паляўяніцкага заказьніку ў Цэльскім лясьніцтве і пра ўтварэньне паляўніцкіх заказьнікаў для аховы ўсялякай дзічыны ў раёне Вязкага і Лапіцкага лясьніцтваў, а таксама пастанову аб гэтым Бабруйскага Акруговага Выканаўчага Камітэту за 16 ліпеня 1928 г. і паведамленьне Бабруйскага Акр. Зям. Аддзелу за 23 ліпеня 1928 г. № 4516, пастанаўляе:

Паляўніцкі заказьнік у Цэльскім лясьніцтве, якому ўжо скончыўся 5-гадовы тэрмін і які ўжо страціў у сэнсе аховы дзічыны сваё значэньне, скасаваць і ўтварыць паляўніцкія заказьнікі з забаронаю паляваньня на ўсю дзічыну і птушак тэрмінам на пяць гадоў ад гэтага дня: 1) у раёне Лапіцкага лясьніцтва ў складзе Жорнаўскай дачы з уваходзячымі ў яе тэрыторыямі Лясной Дасьледчай Станцыі (вур. Дуброва), землямі хут. Навіна, вур. Маргі і вур. Леглеі, плошчаю 6173,76 гэкт.; 2) у раёне Вязкага лясьніцтва ў складзе Вязкай дачы ў межах кварталаў: 1—125, 127—136, 139—144, 149—151, 158—161, 168—175, 182—189, 199—208, 215—219, 225—227, 235—238, 248—249, плошчаю 4694,63 гэкт. і ў раёне Вязкага лясьніцтва ў складзе Вязаніцкай дачы ў межах кварталаў №№ 6—10, 19—23, 32—36, 45—48, 55—59, 63—69, 73—78, 83—89, 95—100, 104—145, 145—162, 167—182, 188—203, 206—214, 218—225, 230—236, плошчаю 4365,45 гэкт., а ўсяго плошчаю паляўніцкіх заказьнікаў—15233,84 гэкт.

За Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

За Загадчыка Ляснога Аддзелу НКЗ БССР **А. Шантаровіч.**

Інспэктар—Эканаміст па Лесаэксплёатацыі **Я. Седашаў.**

31 ліпеня 1928 г.

---

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра загатоўку фуражу для коняй лясьніцтваў.**

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

Для скасаваньня абежніка Лясного Аддзелу НКЗ БССР за 14 мая 1928 г. № 8128, Народн. Камісар. Земляробства БССР паведамляе, што пры загатоўках фуражу для скарбовых коняй, а таксама і ўласных коняй лясьнічых, пам. лясьнічых і аб'езчыкаў трэба кіравацца наступным:

1. Скарбовым коням выдаваць у год 80 п. аўса і 180 п. сена. Загатоўку сена рабіць гаспадарчым спосабам, гэта значыць сенажаці, што знаходзяцца ў дзяржаўным лясным фондзе, здаваць для ўборкі сялянству з часьці; загатоўку аўса рабіць таксама гаспадарчым спосабам праз здачу ў сельска-гаспадарчае карыстаньне сялянству тых зямельных вучасткаў і інш. заворак, якія ёсьць ў дзяржаўным лясным фондзе ў распараджэньні лясьніцтваў.

2. Для ўласных коняй лясьнічых, пам. лясьнічых і аб'езчыкаў, якія сваіх коняй скарыстоўваюць для службовых паездак, адводзіць вучасткі сенажаці з разрахункам на каня па 200 пудоў сена.

3. У тых лясьніцтвах, дзе няма магчымасьці загатовіць фураж для скарбовых коняй і адвесьці сенажаці для ўласных коняй, загатоўку і адвод рабіць у бліжэйшых лясьніцтвах, дзе будуць вольныя вучасткі.

4. Усе спрэчныя пытаньні па здавальненьні фуражом вырашаюцца беспасрэдна акруговымі зямельнымі аддзеламі, на якія ўскладаецца агульнае кіраваньне і абавязак сачыць за сваечасовым ажыцьцяўленьнем паказаных мерапрыемстваў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

Загадчык Лясного Аддзелу **З. Шумілаў.**

8 жніўня 1928 г.
№ 12631.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра зьмену арт. 4, разьдзелу XII, інструкцыі НКУС і НКЮ БССР за 3-IV 1928 г. № 2492 „Пра вядзеньне і запаўненьне актавых кніг".**

Для ўзгадненьня з інструкцыяю Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 17 кастрычніка 1927 г. аб гэрбавым зборы („Известия НКФ СССР" № 3), Народныя Камісарыяты Ўнутраных Спраў і Юстыцыі БССР пастанаўляюць зьмяніць артыкул 4 разьдзелу XII свае інструкцыі за 3 красавіка 1928 г. № 2492 „Пра вядзеньне і запаўненьне актавых кніг" (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 4), запісаўшы яго ў наступнай рэдакцыі:

„4. Гэрбавы збор аплачваецца адпаведнымі гэрбавымі маркамі, якія наклейваюцца на тых паперах, якія астаюцца ў органе ЗАГС: на пісьмовых заявах, а калі пасьведчаньне выдаецца на падставе вусных заяў, дык маркі наклейваюцца на копіях выпісаў. На пасьведчаньнях, што выдаюцца органамі ЗАГС, адзначаецца, у якім разьмеры ўзяты гэрбавы збор, а калі з дакумэнтаў або асоб, якім выдаюцца дакумэнты, гэрбавы збор не бярэцца, дык органы ЗАГС павінны адзначаць на паперах, якія астаюцца ва ўстанове, і ў дакумэнтах, якія выдаюцца на рукі, прычыны, чаму гэрбавы збор не бярэцца".

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Ч. в. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Ст. Гохман.**

23 ліпеня 1928 г.
№ 5180/67.

---

## 15. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак надбудаваньня новых паверхаў на існуючых будынках.**

**Выдаецца на падставе арт. 3 пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 23-IV 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 16, арт. 159).**

1. Усе ўстановы, арганізацыі, прадпрыемствы і прыватныя асобы, якія зьбіраюцца надбудоўваць новыя паверхі над будынкамі, павінны падаць аб гэтым заяву мясцоваму органу камунальнай гаспадаркі і прасіць аб абглядзе і абсьледваньні будынку, на якім праектуецца надбудаваньне.

2. Абгляд і абсьледваньне робіцца з удзелам акруговага інжынэра, каб высьветліць, ці маюць сьцены і падмурак існуючага будынку выстарчальную сілу, каб вытрымаць дадатковую нагрузку новымі паверхамі, патрэбную колькасьць усходаў і выхадаў, а таксама, каб высьветліць якасьць грунту і вызначыць гранічнае напруджаньне, якое можа быць дазволена для надбудовы.

3. На кожнае абсьледваньне складаецца акт з паказаньнем падрабязгова ўсіх заўважаных дэфэктаў, якія павінны быць папраўлены раней надбудаваньня новых паверхаў; да акту прыкладаюцца ўсе патрэбныя тэхнічныя разрахункі, якія паказваюць магчымасьць альбо немагчымасьць надбудаваньня новых паверхаў.

4. Пасьля таго, як будзе выяўлена тэхнічная магчымасьць надбудаваньня новых паверхаў, складаецца праект надбудаваньня, у які ўносяцца ўсе новыя часткі і зьмены ў існуючых паверхах, якія трэба зрабіць у існуючым будынку ў сувязі з надбудаваньнем. Да праекту далучаюцца тэхнічныя разрахункі, якія дакладна сьцьвярджаюць папярэднія падрахункі, паказаныя ў акце абсьледваньня, а таксама і паясьняльная запіска, у якой паказваецца спосаб і парадак вядзеньня работ.

5. Праект надбудаваньня павінен быць разгледжан і зацьверджан ва ўстаноўленым парадку праз належныя органы тэхнічнага нагляду.

6. Работы па надбудаваньні новых паверхаў распачынаюцца, як правіла, толькі пасьля высяленьня з дому ўсіх кватэрантаў і павінны весьціся пад беспасрэдным наглядам і кіраўніцтвам спрактыкаванай асобы, якая мае права самастойна весьці работу па пабудаваньні.

*Увага.* У асабліва спрыяючых ходу будаўніцтва ўмовах можна дазволіць частковае пакіданьне ў доме жыльцоў на час вядзеньня работ, але абавязкова аб гэтым павінен быць складзены адпаведны акт.

7. Калі ў час будаваньня выявяцца такія дэфэкты існуючага будынку, якія не маглі быць высьветлены пры папярэднім абсьледваньні дому, то складаецца камісія, з удзелам акруговага інжынэра, якая павінна ўстанавіць спосаб выпраўленьня заўважаных дэфэктаў, аб чым складаецца належны акт.

8. Пасьля сканчэньня надбудаваньня новых паверхаў і перад разьмяшчэньнем кватэрантаў увесь будынак абглядаецца ізноў камісіяю з удзелам акруговага інжынэра, аб чым складаецца акт.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Рэспубліканскі Інжынэр **О. Краузэ.**

25 ліпеня 1928 г.
№ 97.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР пра патрэбу азнаямленьня асабовага складу прамысловай міліцыі з асновамі пажарнай справы.

*Акруговым адміністрацыйным аддзелам і акруговым пажарным інспэкцыям АВК.*

Для азнаямленьня асабовага складу прамысловай міліцыі з элемэнтарнымі правіламі папярэджваньня пажараў і спосабамі гашэньня пажараў для аказаньня першай дапамогі ў выпадку пажару на прадпрыемствах, што ахоўваюцца імі, Н. К. Унутраных Спраў БССР прапануе:

1. Увясьці ва ўсіх камандах прамысловай міліцыі заняткі па азнаямленьні міліцыянэраў з самымі простымі папераджальнымі су-

процьпажарнымі захадамі на ахоўваемых прадпрыемствах і па ўменьні ўжываць супроцьпажарны інвэнтар і абсталяваньне, якія ёсьць на гэтых прадпрыемствах.

2. Правядзеньне памянёных заняткаў аднесьці да службовых абавязкаў брандмэйстараў і ажыцьцяўляць іх пасьля ўзгадненьня з адміністрацыяй прадпрыемстваў, дапасоўваючы да праграмы практычных і тэарэтычных заняткаў, што існуюць у прафэсіянальных пажарных камандах.

3. Брандмэйстры павінны праводзіць памянёныя заняткі адначасова з азнаямленьнем рабочых і служачых данага прадпрыемства з супроцьпажарнымі захадамі і ў гадзіны па ўзгадненьні з начальнікамі аддзяленьняў ці каманд прамысловай міліцыі.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

16 жніўня 1928 г.
№ 101.

---

## 17. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра вызваленьне вучняў-стыпэндыятаў ад гэрбавага збору.

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

Па зьвестках, якія паступілі ў Н. К. Унутраных Спраў БССР, бываюць выпадкі спагнаньня гэрбавага збору са студэнтаў-стыпэндыятаў пры выдачы ў сельскіх мясцовасьцях дакумэнтаў пра скасаваньне шлюбу.

Паводле § 31 пераліку выняткаў па гэрбавым зборы, вучні, якія атрымоўваюць дзяржаўныя стыпэндыі, вызваляюцца наогул ад гэрбавага збору (З. З. СССР 1927 г., № 55, арт. 553).

Таму Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе ўсім органам ЗАГС не дапушчаць спагнаньня з вучняў-стыпэндыятаў гэрбавага збору пры выдачы ім дакумэнтаў па розных актах грамадзянскага стану.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

17 жніўня 1928 г.
№ 102.

---

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра выплату заработнай платы служачым сельскіх установаў праз сельскія саветы і касы ашчаднасьці.

*Усім акруговым фінансавым аддзелам БССР. Копія—Галоўнай Касе Ашчаднасьці БССР.*

Паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 5 сакавіка 1928 году, выплата заработнай платы работнікам бюджэтных установаў у сельскіх саветах, якія ня маюць сваіх бюджэтаў, павінна праводзіцца праз старшынь сельскіх саветаў у тэрміны паміж 20 і 30 днямі кожнага месяца, а ў тых сельскіх саветах, якія маюць касы ашчаднасьці—праз гэтыя апошнія.

Для ажыцьцяўленьня гэтага Народны Камісарыят Фінансаў БССР прапануе акруговым фінансавым аддзелам даручыць раённым выканаўчым камітэтам акругі ў далейшым выплату заработнай платы слу-

жачым устаноў, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях і ўтрымоўваюцца на мясцовым бюджэце, праводзіць наступным парадкам:

1. Перад надыходам тэрміну выплаты заработнай платы (загадзя да 20 і 30 дня месяца) раённыя выканаўчыя камітэты павінны ўстанавіць чаргу выдачы грошай па асобных сельскіх саветах ці нават установах (напрыклад: школы 1 ст., хаты-чытальні і г. д.) і своечасова паведаміць служачых, куды і якога дня ім трэба зьвярнуцца за атрыманьнем заработнай платы.

2. Калі ў мясцовасьцях, дзе знаходзяцца ўстановы, служачым якіх трэба выдаць заработную плату, ёсьць каса ашчаднасьці, то раён. вык. камітэт павінен своечасова, гэта значыць не пазьней 20—25 дня, перадаць у касу ашчаднасьці раённага цэнтру два экзэмпляры патрабавальных ведамасьцяй і падлягаючую выплаце суму грошай.

3. У патрабавальных ведамасьцях, апроч назвы атрымальніка і належачай да выдачы на рукі сумы, павінна быць адзначана: месца пражываньня і назва сельскага агэнцтва сувязі, з якога грошы павінны быць выдадзены.

4. На аснове патрабавальных ведамасьцяй каса ашчаднасьці раённага цэнтру залічае ў сябе атрыманыя грошы на бягучыя рахункі асоб, паказаных у ведамасьцях (калі выплата будзе рабіцца на месцы), ці перадае патрэбныя сумы, як дадатковыя ўносы, у бліжэйшыя да месца пражываньня служачага касы ашчаднасьці пры сельскіх агэнцтвах сувязі, пасьля чаго адзін экзэмпляр патрабавальнай ведамасьці з адзнакаю на ёй даты залічэньня грошай на асабовыя рахункі служачых зварочвае раённай касе, якая прыслала патрабавальную ведамасьць.

5. У дзень перадачы грошай у касу ашчаднасьці на выплату заработнай платы каса раён. вык. камітэту павінна сьпісаць іх у расход адным расходным ордэрам за дзень, як выдачу простым крэдыторам, а зьвернутыя касаю ашчаднасьці другія экзэмпляры патрабавальных ведамасьцяй далучыць да расходнага ордэру, як апраўдальны дакумэнт па выплаце заработнай платы.

6. Патрабавальныя ведамасьці могуць складацца агульныя па аднолькавых установах усяго раёну, ня гледзячы на тое, што грошы будуць выдавацца з розных кас ашчаднасьці.

7. У тых выпадках, калі ў некаторых сельскіх саветах няма касы ашчаднасьці, заработная плата па ўстановах, якія знаходзяцца ў такіх сельскіх саветах, павінна выдавацца праз старшынь сельскіх і местачковых саветаў, для чаго раён. вык. камітэт загадзя вызначае старшыням савету пэўны дзень, калі яны павінны зьявіцца ў касу раён. вык. камітэту за атрыманьнем патрэбнай сумы грошай і раздатачных ведамасьцяй.

8. Грошы, прызначаныя на выплату заработнай платы, выдаюцца старшыні савету, як аванс, пад расьпіску на расходным ордэры.

9. За атрыманьнем заработнай платы, якая будзе выдавацца праз старшынь саветаў, служачыя павінны будуць самі зьяўляцца ў належны савет ці пасылаць туды сваіх упаўнаважаных з пісьмовымі даручэньнямі.

10. Атрыманыя старшынямі сельскіх і местачковых саветаў грошы на выдачу заработнай платы служачым сельскіх устаноў не павінны расходвацца на якія-небудзь іншыя патрэбы.

11. Каб атрыманыя старшынёй сельскага ці местачковага савету грошы на выдачу заработнай платы не ляжалі ў яго доўгі час і каб

служачыя ведалі, калі можна знайсьці старшыню ў савеце, служачыя павінны быць загадзя паведамлены аб тым, якога дня будуць выдаваць грошы.

12. Не пазьней як праз 7 дзён пасьля атрыманьня старшынёй савету грошай на выплату заработнай платы, ён павінен перасланць у касу раён. вык. камітэту раздатачныя ведамасьці з расьпіскамі асоб, якім выдадзены грошы, а таксама і астачу грошай, не раздадзеных па якіх-небудзь прычынах.

13. За выдачу заработнай платы праз касы ашчаднасьці, апошнія ня могуць патрабаваць якой-небудзь платы як ад распарадчыка крэдытамі, так і ад атрымальніка ґрошай.

Да гэтага Н. К. Фінансаў лічыць патрэбным дадаць, што паказаныя вышэй прапановы зьяўляюцца толькі асновай, і акруговыя фінансавыя аддзелы, выходзячы з мясцовых умоў, могуць уносіць у іх патрэбныя дадаткі і зьмены, з умовай захаваньня асноўнага прынцыпу, што выплата заработнай платы служачым сельскіх устаноў будзе праводзіцца не далей як у цэнтрах местачковых ці сельскіх саветаў.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва НКФ БССР **А. Сьцепанюк.**

18 жніўня 1928 г. № 2104—31.

---

## 19. Абежнік Народных Камісарыятаў Фінансаў, Юстыцыі і Унутраных Спраў БССР

### пра зборы, якія спаганяюцца пры пасьведчаньні дакумэнтаў па справах аб атрыманьні страхавых сум з чужаземных страхавых таварыстваў.

*Усім акр. фін. аддзелам, натарыяльным канторам, народным судам, раённым выканаўчым камітэтам, сельскім і местачковым саветам БССР.*

Для урэгуляваньня пытаньня пра спагнаньне збораў па дакумэнтах па амэрыканскіх справах, Нар. Кам. Фінансаў, Нар. Кам. Юстыцыі і Нар. Кам. Унутраных Спраў БССР паведамляюць для кіраваньня наступнае:

1. Даверанасьці, якія выдаюцца грамадзянамі СССР Упаўнаважанаму Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжу ў Амэрыцы (Нью-Ёрк) па справах аб атрыманьні страхавых сум чужаземных страхавых таварыстваў, вызваляюцца ад гэрбавага збору (п. „е“ § 54 пераліку выняткаў па гэрбавым зборы за 14 верасьня 1927 г.).

Пры пасьведчаньні подпісаў на гэтых даверанасьцях сельскімі саветамі, апошнімі спаганяюцца зборы, паводле таксы збораў за пасьведчаньне раён. выкан. камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі дакумэнтаў (абежнік НКФ і НКЮ БССР за 24-га сьнежня 1926 г.), пры гэтым сельскія саветы маюць права зусім вызваляць ад гэтага збору незаможных жыхароў.

2. Усе дакумэнты, якія выдаюцца раён. вык. камітэтамі і сельскімі саветамі, напр., пратаколы ці копіі пратаколаў агульных сходаў, у якіх паказваецца, што грамадзянін сапраўды жыў у Амэрыцы, дзе быў забіты ці памёр, даведкі аб тым, што грамадзянін, знаходзячыся ў Амэрыцы, высылаў сваім крэўным грошы, даведкі аб матар'яльным становішчы і іншыя дакумэнты гэрбавым зборам не абкладаюцца (§ 48 пераліку выняткаў па гэрбавым зборы). Выключэньне робіцца толькі

для зварочваньняў аб выдачы выпісаў з актаў грамадзянскага стану і памянёных выпісаў, якія абкладаюцца гэрбавым зборам на агульнай аснове. Калі памянёныя вышэй (у п. 2) дакумэнты выдаюцца іншымі дзяржаўнымі ўстановамі (не раён. вык. камітэтамі і сельскімі саветамі), то дакумэнты гэтыя аплачваюцца гэрбавым зборам на агульнай аснове. Пры пасьведчаньні пералічаных у п. 2 дакумэнтаў натарыяльнымі органамі, народнымі судамі, раён. вык. камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі спаганяецца збор, устаноўлены натарыяльнай таксай або таксай, устаноўленай для раён. выкан. камітэтаў, местачковых і сельскіх саветаў.

3. Бюро Вэтэранаў Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі распрацавала асобныя формы заяў, анкет, пасьведчаньняў на атрыманьне належных сум, якія (формы) прадугледжваюць пасьведчаньне ў натарыяльных канторах подпісаў як самих зацікаўленых асоб, так і сьведак. Натарыяльныя канторы, а дзе іх няма — народныя судзьдзі павінны бяз усякіх перашкод рабіць пасьведчаньне подпісаў на гэтых дакумэнтах.

Дакумэнты гэтыя пры іх пасьведчаньні не аплачваюцца гэрбавым зборам, бо яны прызначаны да падачы не ў дзяржаўныя ўстановы СССР, а прызначаны для падачы ва ўстановы замежных дзяржаў (арт. І Статуту аб Гэрб. Зборы).

4. Агульныя даверанасьці, якія выдаюцца грамадзянамі СССР Упаўнаважанаму Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжу ў Амэрыцы на права рабіць умовы і кіраваць маемасьцю, павінны аплачвацца гэрбавым зборам у 1 р. 65 к. (§ 6 табелю дакумэнтаў, што аплачваюцца гэрбавым зборам), а натарыяльнымі зборамі такія даверанасьці аплачваюцца на агульнай аснове, паводле існуючай таксы.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Ч. в. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Ст. Гохман.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

8 жніўня 1928 г.
№ 68.

---

## 20. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра абвяшчэньне інструкцыі аб пераіменаваньні дзяржаўных фабрык і заводаў рэспубліканскага і мясцовага значэньня.

У сувязі з Палажэньнем аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і на падставе загадаў ВСНГ СССР за 24 лістапада 1924 г. і за 1 чэрвеня 1928 г. („Торгов. Пром. Газ.“ за 20 чэрвеня 1928 г. № 141) ВСНГ БССР абвяшчае ніжэй інструкцыю аб пераіменаваньні дзяржаўных фабрык і заводаў БССР рэспубліканскага і мясцовага значэньня.

### Інструкцыя аб пераіменаваньні дзяржаўных фабрык і заводаў БССР рэспубліканскага і мясцовага значэньня.

1. Усе дзяржаўныя фабрыкі і заводы БССР рэспубліканскага і мясцовага значэньня могуць зьмяняць свае назвы ў наступным парадку:

2. Пераімяноўваюцца ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы, якія маюць назвы:

а) ранейшага ўласьніка (юрыдычнай або фізычнай асобы);

б) не адпавядаючую духу пралятарскай дзяржавы;

в) мясцовасьці, якая зьмяніла сваю назву.

3. Назвы прадпрыемстваў, якія не падыходзяць пад прыметы, паказаныя ў п. 2 гэтай інструкцыі, як агульнае правіла, не пераймяноўваюцца. Матываванае хадайніцтва перад адпаведным органам аб пераіменаваньні гэтых прадпрыемстваў падаецца толькі ў асобных выпадках, калі ёсьць важная прычына для гэтага.

4. Пры зьмене назвы трэба каб: а) назва была кароткаю; б) каб у ёй захоўвалася вытворчая адзнака і в) паказаньне, дзе знаходзіцца прадпрыемства і што яно зьяўляецца дзяржаўным.

Перад назвай прадпрыемстваў, падпарадкаваных ВСНГ БССР, трэба ставіць „ВСНГ БССР“.

5. Нельга даваць двум або некалькім прадпрыемствам аднае вытворчасьці і знаходзячымся ў аднэй мясцовасьці аднакавых назваў (п. п. „б“ і „в“ арт. 4 гэтай інструкцыі).

6. Пры зьмене назвы раіцца даваць прадпрыемствам вытворчыя назвы, назвы гэрояў працы і гэрояў грамадзянскай вайны, назвы гістарычных здарэньняў і інш.

7. У выпадку пераіменаваньня прадпрыемства на працягу першых 5-ці гадоў з моманту зацьверджаньня пераіменаваньня, побач з новай назвай на шыльдах, штампах, этыкэтах і інш., можна ставіць і ранейшую назву з дадаткам літары „б“, якая назва друкуецца дробным шрыфтам.

*Увага.* Гэтае правіла не пашыраецца на выпадкі, паказаныя ў п. „б“ арт. 2 гэтае інструкцыі.

8. Пытаньне аб пераіменаваньні распрацоўваецца фабрычна-заводзкім камітэтам сумесна з мясцовай ячэйкай КП(б)Б і кіраўніцтвам заводу або фабрыкі і вырашаецца агульным сходам рабочых і служачых пры абавязковым удзеле кіраўніцтва.

9. Праект назвы, прыняты на агульным сходзе рабочых і служачых, падаецца праз кіраўніка трэсту для зацьверджаньня: а) на прадпрыемствы рэспубліканскага значэньня—Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР і б) на прадпрыемствы мясцовага значэньня—Акруговаму Выканаўчаму Камітэту, пры адпаведным заключэньні інспэкцыі мясцовай прамысловасьці.

10. Зацьверджаныя ў парадку арт. 9 гэтай інструкцыі назвы аб'яднаных у трэст прадпрыемстваў неадкладна паведамляюцца кіраўніком трэсту ў органы, якія ведаюць рэгістрацыяй дзяржаўных прадпрыемстваў (арт. 12 палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29/VI-1927 г.—З. З. СССР за 1927 г., № 39, арт. 392).

Незалежна ад гэтага інспэкцыі мясцовай прамысловасьці паведамляюць аб пераіменаваньні падпарадкаваных прадпрыемстваў Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Нач. Адм.-Гасп. Кіраўніцтва
ВСНГ БССР **А. Лучышын.**

## 21. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра азнаямленьне гарадзкіх саветаў з працай трэстаў і вытворчых прадпрыемстваў рэспубліканскага значэньня, што знаходзяцца ў межах гарадоў і рабочых пасёлкаў.**

Для азнаямленьня гарадзкіх саветаў з працай трэстаў і вытворчых прадпрыемстваў рэспубліканскага значэньня, што знаходзяцца ў межах гарадоў і рабочых пасёлкаў, кіраўнікам трэстаў і дырэктарам вытворчых прадпрыемстваў рэспубліканскага значэньня загадваю:

1. Азнаямляць адпаведныя гарадзкія саветы па іх прапановах, у тэрміны, якія ўстанаўляюцца па згодзе з імі, з працаю падпарадкаваных прадпрыемстваў праз даклады у адпаведных сэкцыях і на пленумах гарадзкіх саветаў.

2. Своечасова паведамляць адпаведныя гарадзкія саветы аб часе правядзеньня вытворчых нарад на фабрыках і заводах і дапушчаць да ўдзелу ў гэтых нарадах прадстаўнікоў гарадзкога савету з правам дарадчага голасу.

3. Кіраўніцтвы Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР паведамляюць адпаведныя гарадзкія саветы аб зацьверджаных устаноўленым парадкам плянах абсьледваньня прамысловых прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі адпаведных гарадоў і пасёлкаў.

4. Пры правядзеньні прадугледжаных названымі плянамі абсьледваньняў прыцягваць да ўдзелу ў абсьледваньнях прадстаўнікоў гарадзкога савету.

5. У выпадках, калі гарадзкія саветы лічаць патрэбным рабіць абсьледваньні, якія не прадугледжаны плянам, яны паведамляюць аб гэтым Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР.

Пры вырашэньні пытаньня аб абсьледваньні ў станоўчым сэнсе, абсьледваньне праводзіцца адпаведнымі органамі Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР з абавязковым прыцягненьнем прадстаўнікоў гарадзкога савету, які ўзьняў пытаньне аб абсьледваньні.

Час. вык. аб. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР **У. Стракоўскі.**

Нач. Адміністрацыйна-Гаспадарчага
Кіраўніцтва ВСНГ БССР **А. Лучышын.**

25 ліпеня 1828 г.
№ 190.

---

## 22. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра невыкананьне некаторымі трэстамі Палажэньня пра дзяржаўныя прамысловыя трэсты за 29/VI 1927 г. і выдадзенага для яго разьвіцьця тыповага Палажэньня пра кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад трэстаў.**

Заўважваецца, што некаторыя трэсты ня выконваюць цалкам палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29/VI—27 году і выдадзенага для яго разьвіцьця Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі БССР тыповага палажэньня пра кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад трэстаў, а іменна: наглядаюцца выпадкі дробнай апекі трэстаў у адносінах да падпарадкаваных

прадпрыемстваў і вядзеньня перапіскі па дробных пытаньнях, недастатковага прыцягненьня дырэкцыі прадпрыемстваў да ўдзелу ў складаньні прам.-фінансавых і інш. плянаў, неадпаведнасьці выдадзенай дырэктаром даверанасьці фактычна дадзеным яму правом, выпадкі недастатковага ўдакладненьня праў і абавязкаў адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу. Таксама бываюць выпадкі, што трэстамі не распрацаваны палажэньні аб правох і абавязках падпарадкаваных прадпрыемстваў.

З прычыны сказанага вышэй, прапануецца ўсім трэстам неадкладна распрацаваць і зацьвердзіць палажэньні аб паасобных вытворчых прадпрыемствах, якія ўваходзяць у склад трэстаў, на падставе тыповага палажэньня ВСНГ БССР за 22/XII-1927 г. (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 1) і ў далейшым няўхільна выконваць у адносінах да кіраваньня вытворчымі прадпрыемствамі палажэньне аб трэстах. Працу скончыць да 1/X-1928 г.

Кіраўніцтвы ВСНГ БССР павінны сачыць за выкананьнем гэтай пастановы і аб усялякіх ухілах ад дакладнага выкананьня даводзіць да ведама Прэзыдыуму ВСНГ БССР.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Нач. Адміністрацыйна-Гаспадарчага
Кіраўніцтва ВСНГ БССР **А. Лучышын.**

25 ліпеня 1928 г.
№ 191.

---

## 23. Пытаньні і адказы.

### Запытаньне Памочніка Пракурора 2 вуч. Мазырскай акругі.

**Пытаньне 41.** Ці траціць па даўнасьці законную сілу пастанова зямельнай камісіі, якая ня была выканана на працягу звыш трох год? Справа такая, што ў 1921 годзе павятовая зямельная камісія зацьвердзіла пастанову валасной, здаволіўшай іск, але не зьвярнула справу ў воласьць для выкананьня свае пастановы, калі яна набыла сілу. Зрабіла гэта ўжо акруговая зямельная камісія ў 1925 г. Іісьцец-жа па незалежных ад яго прычынах ня меў магчымасьці хадайнічаць пра выкананьне пастановы камісіі.

**Адказ.** Паводле арт. 185 Г.П.К. і арт. 155 інструкцыі аб парадку разгляду спраў зямельнымі камісіямі, нявыкананае на працягу трох год рашэньне іх па спрэчнай зямельнай справе траціць сілу па даўнасьці, калі ўвесь гэты час старана не дамагалася выкананьня пастаноўленага на яе карысьць рашэньня.

### Запытаньні Краснапольскай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 42.** У 1923 годзе з вёскі выдзелілася частка двароў. Застаўшыяся адмовіліся

**Адказ.** Паводле, арт. 150 Зям. Код землеўпарадчыя работы праводзяцца зямельнымі органамі. Прыватнае земля

ад земляўпарадкаваньня і самі падзялілі паміж сабой сядзібы. Некаторыя з двароў перайшлі на новыя сядзібы, а большасьць астаецца на старых і перашкаджае гэтым выканаць пераразьмеркаваньне сядзібных вучасткаў. Паміж дварамі, што ня хочуць і хочуць перасяліцца, пачаліся суды. Як трэба вырашаць гэтыя справы?

ўпарадкаваньне забаронена. Насельніцтва можа толькі хадайнічаць аб земляўпарадкаваньні. Таму спраектаванае вёскай бяз удзелу зямельных органаў пераразьмеркаваньне сядзібных вучасткаў ня мае юрыдычнай сілы. Калі двары дабравольна не згаджаюцца з гэтым пераразьмеркаваньнем, зямельная камісія не павінна пацьвярджаць яго сваімі пастановамі. Выхад з такога становішча для вёскі толькі ў гаспадарчым яе ўпарадкаваньні пры дапамозе зямельных органаў. Гэтае ўпарадкаваньне, на падставе арт. 151 Зям. Код., можа быць зроблена і па пачыну зямельных органаў, калі яны прызнаюць патрэбным скасаваць у вёсцы недахопы землякарыстаньня, якія абвастраюць пазямельныя адносіны насельніцтва.

**Пытаньне 43.** Пры земляўпарадкаваньні грамадзяне атрымалі зямлю на пасёлку. Гаспадарчага ўпарадкаваньня зроблена ня было, а зямлю разьмеркавалі паміж сабой самі грамадзяне. Праз 2-3 гады адзін з двароў высьветліў, што яму не дадалі зямлі да паказанай у земляўпарадчым праекце нормы, між тым як у другога двара, ня суседняга, аказваецца лішняя зямля. Справа паступіла ў зямельную камісію па спрэчцы аб зямлі. Ці можна задаволіць паданы іск, хоцьбы для гэтага прышлося зьмяніць межы палос усіх пасялкоўцаў?

**Адказ.** Норма зямлі кожнага двара на пасёлку вызначана ў земляўпарадчым праекце. Пасялковец, якому пры разьмеркаваньні зямлі самімі грамадзянамі не далі поўнай нормы, можа прасіць аб прысуджэньні яму належнай часткі зямлі з двара, які атрымаў надзел звыш нормы. Права на падачу гэтага іску ён мае на працягу трох год з часу разьмеркаваньня зямлі грамадзянамі, г. зн. пакуль ня скончыцца тэрмін іскавой даўнасьці. Пры здавальненьні паданага іску і прысуджэньні зямельнага вучастку ад несумежнай гаспадаркі зьмяняць межы палос усіх пасялкоўцаў мэтазгодна толькі тады, калі будзе праводзіцца гаспадарчае ўпарадкаваньне пасёлку.

**Запытаньне Крычаўскага Раённага Выканаўчага Камітэту.**

**Пытаньне 44.** У сувязі з будаўніцтвам чыгуначнай лініі, арэндная плата за зямлю дасягнула ў раёне высокага разьмеру: у сярэднім 60 руб. у год за дзесяціну. Ці можа раённы выканаўчы камітэт адмаўляць у рэгістрацыі дагавору з прычыны высокай арэнды.

**Адказ.** Рэгістрацыя дагавору працоўнай арэнды зямлі праводзіцца цяпер сельскім саветам на падставе пункту „а" арт. 85 пастановы ЦВК і СНК БССР за 22/XII-1927 г. аб рэарганізацыі і спрашчэньні савецкага апарату (З.З. БССР —1928 № 6 г., арт. 36). Сельскі савет пры рэгістрацыі дагавору павінен абмеркаваць пытаньне аб яго законнасьці, г. зн. высьветліць, ці маюць стораны права на заключэньне дагавору аб працоўнай арэндзе зямлі (арт. арт. 27, 30 і 33 Зям. Код.), ці захаваны імі правілы аб тэрміне і ўмовах арэнды (арт. арт. 28, 34 і 37), якой колькасьцю зямлі карыстаюцца

ўдзельнікі дагавору, у якой ступені і з якіх прычын аслаблена гаспадарка здатчыка і ці здолее арандатар сіламі свае гаспадаркі апрацаваць зямлю, якую ён хоча ўзяць у арэнду. Пытаньне-ж аб разьмеры арэнднай платы ня мае значэньня для законнасьці дагавору асабліва, калі разьмер гэты адпавядае мясцовым эканамічным умовам і не дае падстаў падазраваць скрытага продажу зямлі. Зразумела, што сельскі савет павінен не дапушчаць кабальных умоў, яўна некарысных для аднэй з старон, якая мусіла згадзіцца на іх пад прымусам асаблівых прычын.

### Запытаньне Сьвіслацкай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 45.** Ці можна пазбавіць права на землякарыстаньне гаспадарку, якая наогул займаецца гандлем, а зямля прыносіць ёй не асноўны прыбытак і апрацоўваецца праз нанятых рабочых на працягу некалькіх год?

**Адказ.** Выпадкі, калі працоўная земляробская гаспадарка пазбаўляецца права на землякарыстаньне, дакладна пералічаны ў арт. арт. 16, 17, 26, 29, 58 і 96 Зям. Код. Ніякіх другіх падстаў для адабраньня зямлі законам не ўстаноўлена. У асобку, наяўнасьць у працоўнай земляробскай гаспадарцы гандлёвага ці прамысловага прадпрыемства не зьяўляецца падставай для пазбаўленьня гаспадаркі права на карыстаньне зямлёю.

Права ўжываць дапаможную наймовую працу на льготных умовах, паказаных у часовых правілах СНК БССР за 18 красавіка 1925 г., маюць, паводле арт. арт. 38 і 39 Зям. Код., толькі такія незаможныя сялянскія гаспадаркі, у якіх усе наяўныя працаздольныя члены прымаюць удзел у гаспадарчых работах нараўне з батракамі. У сельскіх-жа прамысловых гаспадарках (З. З. БССР 1928 г. №13, арт. 114) ужываецца наймовая праца на падставе Код. Зак. аб Працы і выданых у яго разьвіцьцё распараджэньняў.

Нарэшце, калі двор, атрымаўшы зямлю ў працоўнае карыстаньне, страціць свой працоўны лад, г. зн. усе наяўныя працаздольныя члены ня будуць нараўне з наймовымі рабочымі прымаць удзел у работах гаспадаркі, яна павінна быць пазбаўлена зямлі за парушэньне ёю тых умоў, якія ўстаноўлены арт. 9 Зям. Код. для землякарыстальнікаў.

### Запытаньні Аддзелу Мэліарацыі і Земляўпарадкаваньня НКЗ.

**Пытаньне 46.** Землямі працоўнага карыстаньня ці земля-

**Адказ.** Быўшыя непрацоўныя землі, якія з часоў рэвалюцыі знаходзяцца ў

мі дзяржаўнага запаснага фонду пры земляўпарадкаваньні трэба лічыць вучасткі, якія да рэвалюцыі ўваходзілі ў склад непрацоўных зямель, а пасьля рэвалюцыі зямельнымі органамі здаваліся сялянам па дагаворах у арэнду?

Тэрмін гэтай арэнды скончыўся ў 1922 г., пасьля чаго асобы, якія карысталіся зямлёю па дагаворах, прадаўжаюць карыстацца ёю бяз усякіх умоў з зямельнымі органамі.

карыстаньні сялянства, павінны лічыцца працоўнымі землямі і ў тым выпадку, калі зямельныя органы з часу рэвалюцыі і да 1922 году здавалі іх сялянам у арэнду, а потым пакінулі гэтыя землі ў карыстаньні тых-жа гаспадарак без усякіх дагавораў. Пры земляўпарадкаваньні паказаныя гаспадаркі маюць права на землякарыстаньне ня больш максымальнай нормы.

### Запытаньне Аршанскай Акруговай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 47.** Ці мае права акруговая зямельная камісія разглядаць у распарадчым пасяджэньні бясспрэчныя земляўпарадчыя справы, якія паступілі на разгляд яе, у якасьці першае інстанцыі, ці трэба слухаць іх у агульным парадку з выклікам усіх удзельнікаў земляўпарадкаваньня?

**Адказ.** Паводле арт. 200 Зям. Код. у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/V-1928 г., пасяджэньні акруговай зямельнай камісіі ня дзеляцца на судовыя і распарадчыя, як гэта было ўстаноўлена ранейшай рэдакцыяй таго-ж артыкулу. Таму ўсе падсудныя акруговай зямельнай камісіі, як першай інстанцыі, справы павінны цяпер разглядацца ёю толькі ў судовых пасяджэньнях з выклікам старон незалежна ад таго, падаваліся імі ці не скаргі на земляўпарадчы праект пасьля яго паказаньня.

### Запытаньне Лоеўскага Раённага Выканаўчага Камітэту.

**Пытаньне 48.** Хто можа перадаць новаму двару свабодную сядзібу на тэрыторыі мястэчку? Гэтую сядзібу кінуў двор, які перасяліўся ў другое месца.

**Адказ.** Калі мястэчка, дзе ёсьць свабодная сядзіба, не ўваходзіць у склад паселішч гарадзкога тыпу, то адвод новаму двару ці разьмеркаваньне сядзібы паміж суседзямі, на падставе арт. 15 Зям. Код., робіцца сельскім саветам у парадку спрошчанага земляўпарадкаваньня. Калі-ж мястэчка зьяўляецца паселішчам гарадзкога тыпу, то, паводле арт. арт. 1[illegible] і 135 Зям. Код., распараджэньне ў іх свабоднаю сядзібаю належыць органу камунальнай гаспадаркі, бо дзеяньне зямельных органаў на гарадзкія землі не пашыраецца.

### Запытаньне Жлобінскай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 49.** Ці мае права землякарыстальнік на атрыманьне кампэнсацыі за сад, студню і інш., як неаддзельныя ад зямлі, калі ён дабравольна адмаўляецца ад карыстаньня зямлёю, на якой гэтыя сад, студня і інш. знаходзяцца, а вучастак зямлі разам з усімі

**Адказ.** Паводле арт. 24 Зям. Код., землякарыстальнік мае права ўласнасьці на пабудовы, будынкі, пасевы і расьліны на зямлі, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні. Таму, калі ён дабравольна адмовіўся толькі ад карыстаньня зямлёю, ён можа забраць ці прадаць належачую яму маемасьць і атрымаць кампэнсацыю ад новага землякарыстальніка за маемасьць

палепшаньнямі перадаецца другому землякарыстальніку?

якая ня можа быць аддзелена ад зямлі бяз псоты яе гаспадарчай годнасьці. Спрэчкі пра разьмер кампэнсацыі, якія пры гэтым могуць узьнікнуць, вырашаюцца раённаю зямельнаю камісіяй.

### Запытаньне Сялецкага Сельскага Савету Горацкага раёну.

**Пытаньне 50.** Ці можа сельскі савет адабраць ад грамадзяніна зямлю, якая была яму ў 1924 г. прырэзана ў часовае карыстаньне, а потым ён быў надзелен зямлёй да мінімальнай нормы ў другім месцы без падліку прырэзанай зямлі?

**Адказ.** Паводле арт. арт. 12 і 199 Зям. Код., зямля запаснага фонду даецца грамадзянам у працоўнае карыстаньне без вызначэньня яго тэрміну. Адабрана дадзеная зямля можа быць толькі на падставах, паказаных у законе, і толькі ў судовым парадку, калі спэцыяльным законам ня вызначан іншы парадак адабраньня зямлі. Таму сельскі савет без захаваньня паказаных умоў ня можа адабраць з працоўнага карыстаньня грамадзяніна зямлю, якую ён атрымаў ад зямельных органаў.

### Запытаньне Заслаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

**Пытаньне 51.** Як узгодніць арт. арт. 81 і 84 Зям. Код? Паводле першага артыкулу пры падзеле гаспадаркі зямельныя і маемасныя долі членаў двара вызначаюцца па працоўных адзінках, а на грунце другога артыкулу—пры выхадзе члена з гаспадаркі сума выплат ня можа перавышаць трэцяй часткі каштоўнасьці гаспадарчай маемасьці. Бываюць выпадкі, што выходзяць 4 працоўных адзінкі са складу 6. Паводле арт. 81 Зям. Код. члены двара, якія выходзяць з яго складу, маюць права на дзьве трэція часткі зямлі і маемасьці, а па арт. 84—толькі на адну трэць каштоўнасьці аднэй маемасьці. Значыць, арт. 81 пярэчыць арт. 84 Зям. Код.

**Адказ.** Паміж артыкуламі 81 і 84 Зям. Код. супярэчнасьці няма. Арт. 81 ужываецца толькі пры падзелах у натуры тых гаспадарак, якія ў выключных выпадках можна дзяліць. Паводле-ж арт. 84 прызначаюцца грашовыя выплаты пры выхадзе членаў двара з непадзельнай гаспадаркі. Значыць, адна і тая-ж гаспадарка не падлягае адначасна дзеяньню гэтых двух артыкулаў. Колькі-б членаў ня выходзіла адразу са складу непадзельнай гаспадаркі, яны, на грунце арт. 84, як спэцыяльнага, могуць атрымаць ня больш трэцяй часткі агульнай вартасьці ўсяго гаспадарчага абсталяваньня двара.

Адказы на пытаньні 41—51 даюцца Асобнай Калегіяй Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР (Журнал пленарнага пасяджэньня АКВК за 27/VIII 1928 году № 38).

---

## 24. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

**пра парадак кантролю за выдаткам на заработную плату ва ўстановах, дзе праведзена дзяржаўнае нармаваньне.**

*Усім народным камісарыятам, цэнтральным установам і акруговым выканаўчым камітэтам БССР.*

Складзенымі на падставе арт. 10 пастановы СНК СССР за 30 верасьня 1927 году і зацьверджанымі НК Працы, НК Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народным Камісарыятам Фінансаў СССР 19 кастрычніка таго-ж году Часовымі правіламі пра парадак правядзеньня дзяржаўнага нармаваньня заработнай платы служачым дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах, а таксама якія дзейнічаюць на падставе гаспадарчага (камэрцыйнага) разрахунку, на органы Народнага Камісарыяту Фінансаў ускладзены абавязак устанаўленьня наступнага кантролю за заработнай платай па платных ведамасьцях, які павінен забясьпечваць адпаведнасьць выплачанай заработнай платы да ўстаноўленых штатаў і зацьверджаных ставак (арт. 21 „Часовых Правіл").

Для таго, каб існуючы парадак падліку і справаздачнасьці па заработнай плаце даваў ясны адбітак правільнасьці выплат з фонду заработнай платы і адпаведнасьці выплачаных сум штатным пасадам і сапраўднаму наліччу штатных служачых ва ўстановах за кожны пэўны пэрыяд, Нар. Кам. Фінансаў і Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР прапануюць для абавязковага выкананьня і прапановы падпарадкаванымі распарадчыкам крэдытаў наступныя паказаньні:

1. У ведамасьцях на выплату заработнай платы (графа 2) супроць прозьвішча кожнага працаўніка паказваецца ўстаноўленая па штату назва займаемай ім пасады.

2. Ведамасьці складаюцца абавязкова на наяўны, а не на штатны склад служачых і рабочых, і пры тым за час, які фактычна кожны з іх працаваў на працягу пэрыяду, за які выплачваецца заработная плата.

Служачым і рабочым, якія з прычыны часовай непрацаздольнасьці ці хваробы павінны атрымоўваць заработную плату ад страхавой касы за час, які яны знаходзіліся на яе ўтрыманьні, выпісваецца толькі тая частка стаўкі, якая адпавядае фактычна прапрацаванаму імі часу, пры чым у ведамасьці робіцца ўвага аб тым, за які час выпісана заработная плата.

3. На асоб, якія ідуць у водпуск і атрымоўваюць заработную плату наперад, а таксама на выдачу кампэнсацыі за нескарыстаны водпуск, на аплату звышмернай і часовых работ, на выдачу выходных дапамог і іншых падобных сум, што выплачваюцца на падставе адпаведных законаў, складаюцца асобныя раздавальныя ведамасьці.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР **К. Элькінд.**

27 жніўня 1928 г.
№ 6100.

## 25. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра перавод у штат бронь-падлеткаў ва ўстановах, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах.**

*Усім акруговым інспэкцыям працы, цэнтральным установам і ЦСПСБ.*

Абежнікам сваім за 29 лістапада 1927 г. № 1-44-11-15 Народны Камісарыят Працы прапанаваў ужыць захады, каб на працягу 1927-28 г. усе бронь-падлеткі ўстаноў, што знаходзяцца на дзяржаўным, і на мясцовым бюджэтах, былі пераведзены ў штаты ўстаноў. Але ня гледзячы на тое, што год ужо канчаецца, установы яшчэ маюць да 70 проц. неразбраніраваных падлеткаў, пры чым большая частка іх працуе больш за 2 гады.

Прымаючы пад увагу, што трыманьне падлеткаў на пазаштатнай працы больш за 2 гады парушае існуючае заканадаўства аб броні і на падставе пастановы СНК БССР за 2 жніўня 1927г., Народны Камісарыят Працы прапануе ўжыць захады да разбраніраваньня бронь-падлеткаў паводле памянёнага абежніку за 29 лістапада 1927 г. і аб выніках паведаміць Народны Камісарыят Працы да 20 верасьня г. г.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

23 жніўня 1928 г.
№ 55.

---

## 26. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра зьмену п. 5 пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 14 чэрвеня 1928 г. № 46.**

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25-26, арт. 227) і распараджэньня Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 11 жніўня 1928 г. № 11828, на зьмену п. 5 пастановы за 14 чэрвеня 1928 г. № 46, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для дзяржаўных і капэрацыйных хлебапякарных прадпрыемстваў наступныя гранічна-максымальныя цэны на жытні і пшанічны печаны хлеб:

а) жытні абойны . . . . . . . 11 к. кгл.
б) пшанічны аднагатунковы (80 проц.) калач вагавы — 26 к. клг.

*Увага.* Цэны на іншыя гатункі хлеба, якія ўстаноўлены Народным Камісарыятам Гандлю БССР пастановай за 14 чэрвеня 1928 г. № 46 і ўдакладненыя акруговымі інспэктарамі гандлю, астаюцца бяз зьмены.

2. Акруговыя інспэктары гандлю павінны ўдакладніць паказаныя ў п. 1 гэтай пастановы гранічна-максымальныя цэны для магчымага зьніжэньня, грунтуючыся на мясцовых умовах і не перавышаючы цэн, устаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю і ўвесьці ў жыцьцё не пазьней 10-га верасьня 1928 г.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

18-га жніўня 1928 г.
№ 50.

Зацьверджана Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 1 верасьня 1928 г.

## 27. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### пра інвэнтарызацыю маемасьці адміністрацыйных урадавых установаў, што знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце.

*I. Агульныя палажэньні.*

§ 1. Адсутнасьць цьвёрдай рэглямэнтацыі ў галіне інвэнтарызацыі маемасьці адміністрацыйных урадавых установаў вельмі адмоўна адбілася на пастаноўцы падліку паказанай катэгорыі каштоўнасьцяй. Непаўната падліку, а таксама вялікая колькасьць сыстэм інвэнтарызацыі, якія практыкуюцца адміністрацыйнымі установамі, зьяўляецца важнаю перашкодаю для складаньня зборных інвэнтарных ведамасьцяй па Рэспубліцы, якія адпавядалі-б вымаганьням паўнаты і дакладнасьці і былі-б аднастайны па пабудове і прынятых нормах ацэнкі.

Задача гэтай інструкцыі—запоўніць гэты прабел праз устанаўленьне, у разьвіцьцё § 55 Палажэньня аб падліку і справаздачнасьці па матар'яльных каштоўнасьцях у адміністрацыйных урадавых установах, зацьверджанага пастановаю Калегію НКРСІ СССР за 25/VIII-27 г., аднастайных і абавязковых для ўсіх адміністрацыйных урадавых установаў правіл інвэнтарызацыі маемасьці.

§ 2. Для правядзеньня з посьпехам інвэнтарызацыі, трэба мець на ўвазе наступнае:

а) інвэнтарызацыя павінна рабіцца ва ўсёй Рэспубліцы адначасова— у канцы справаздачнага году;

б) інвэнтарызацыя павінна быць зроблена на ўсю маемасьць, якая ў дзень падлічэньня належыць адміністрацыйным установам (хоць-бы і не запісана па тых ці іншых прычынах на прыход), у тым ліку маемасьць, якая захоўваецца у іншых мясцох альбо перададзена для скарыстаньня розным асобам і ўстановам, але належнасьць якой інвэнтарызуемым гаспадаркам устаноўлена;

в) інвэнтарызацыя павінна рабіцца паводле гэтай інструкцыі.

*II. Органы і парадак падліку.*

§ 3. Для правядзеньня інвэнтарызацыі ўтвараюцца ў ведамственных органах інвэнтарызацыйныя камісіі, якія працуюць пад кіраўніцтвам цэнтральных апаратаў ведамстваў паводле гэтай інструкцыі.

У абавязкі паказаных цэнтральных апаратаў уваходзіць агульны нагляд за ходам інвэнтарызацыі ў падведамственных органах, апрацоўка падрабязных інструкцый аб аднясеньні маемасьці да ўстаноўленых груп, паводле паказанай ніжэй намэнклятуры, і іншых кіраўнічых паказаньняў, калі яны будуць патрэбны.

§ 4. Інвэнтарныя камісіі ўтвараюцца з 3 чалавек, у іх абавязкова павінен удзельнічаць рахунковы працаўнік, а старшынёю павінна быць упаўнаважаная распарадчыкам крэдытаў асоба.

*Увага.* У функцыянальных установах старшынёю такіх камісій зьяўляецца сам распарадчык крэдытаў ці яго намесьнік.

§ 5. Усю працу, зьвязаную з інвэнтарызацыю маемасьці, трэба падзяліць на два пэрыяды: у першым робіцца інвэнтарызацыя ў дакладным сэнсе гэтага слова, г. зн. складаюцца сьпісы маемасьці, абгрунтаваныя па натуры, а ў другім—робіцца параўнаньне даных інвэнтарных сьпі-

саў з бухгальтэрскімі запісамі і вынікаючае адтуль выпраўленьне апошніх, калі яны будуць разыходзіцца.

*Увага*. У наступныя гады, пачынаючы з 1929-30 г. інвэнтарызацыя робіцца без складаньня сьпісаў маемасьці, але з абавязковым параўнаньнем натуры з бухгальтэрскімі запісамі. На выяўленыя недахопы і лішкі складаюцца ведамасьці паводле ф. № 5.

§ 6. Распачынаючы інвэнтарызацыю, раней усяго трэба высьветліць у адносінах да маемасьці, якая належыць данай установе, дзе і якія яе часткі знаходзяцца ў момант складаньня інвэнтару. Калі тая ці іншая частка маемасьці знаходзіцца па-за-межамі інвэнтарызуемай установы, то трэба высьветліць, на якіх падставах яна перададзена.

§ 7. Каб ня было затрымкі пры правядзеньні інвэнтарызацыі, трэба па магчымасьці прывесьці часткі маемасьці ў такі парадак, які-б палегчыў падлік паасобных матар'яльных каштоўнасьцяй па аднастойных групах.

§ 8. Трэба ўхіляцца ад пераважваньня, а ў некаторых выпадках ад пералічэньня, калі ад гэтага атрымоўваецца ўбытак ад раструскі і распыленьня выклікаюцца непатрэбныя выдаткі і разам з тым зьмяншаецца хуткасьць зьняцьця астач. Такімі прадметамі зьяляюцца буйныя партыі, прынятыя паводле адпаведных актаў, фактур і рахункаў, калі фактычна наяўнасьць іх не выклікае сумненьня. Калі прадукты, матар'ялы і апал не захоўваюцца ў тары, то для ўстанаўленьня астачы можна ўжываць вылічэньне вагі па аб'ёму, зважаўшы перад гэтым пробу вызначанага аб'ёму для вылічэньня агульнай вагі памянёных вышэй каштоўнасьцяй. Не пераважваюцца і не пералічаюцца прадметы, якія захоўваюцца ў яўна некранутым пакаваньні і з нармаванаю чыстаю вагаю.

§ 9. Пры правядзеньні інвэнтарызацыі трэба ўсю маемасьць падзяліць на наступныя віды:

1) будынкі і пабудовы:
а) якія беспасрэдна эксплёатуюцца інвэнтарызуемаю ўстановаю,
б) адданыя ў арэнду,
2) інвэнтар і абсталяваньне:
а) якія беспасрэдна эксплёатуюцца інвэнтарызуемаю ўстановаю,
б) адданыя ў арэнду.
3) Матар'ялы.

*Увага*. Пад інвэнтаром разумеюцца прадметы, якія на ўваходзяць у склад іншых прадметаў і пабудоў, служаць самастойна і пры карыстаньні ня зьнішчаюцца у адной апярацыі, напрыклад: канторскае абсталяваньне, адзеньне, перавозачныя сродкі, конская запрэжка і інш.

Прадметы, якія лёгка б'юцца, і малакаштоўныя, а таксама тыя, якія служаць менш году, інвэнтаром ня лічацца, а павінны быць аднесены да матар'ялаў па групе—„розныя матар'яльныя каштоўнасьці ў эксплёатацыі".

§ 10. Будынкі і пабудовы падлічаюцца па кошту іх адбудаваньня паводле вурочнага палажэньня, апроч раскіданьня. Іншая маемасьць (рухомая маемасьць і матар'ялы) падлічаецца па яе пачатковаму кошту.

§ 11. Штогадовая пераацэнка матар'яльных каштоўнасьцяй як годных, так і нягодных, для далейшай экплёатацыі ня робіцца. На нягодную маемасьць, выяўленую пры інвэнтарызацыі, складаецца асобны сьпіс (акт), у якім апроч назвы і колькасьці нягодных прадметаў даецца яшчэ апісаньне прычын нягоднасьці. У такі сьпіс трэба ўключыць толькі маемасьць зусім нягодную, якая ня можа быць адрэмантавана альбо адноўлена, і павінна быць сьпісана, як убытак.

*Увага.* а) Матар'ялы і рухомая маемасьць, набытыя да 1-X-27 г., пералічаюцца па кніжнаму кошту нават і тады, калі раней рабілася пераацэнка памянёнай вышэй катэгорыі маемасьці. Зьмена кніжнай ацэнкі дазваляецца ў выключных выпадках, калі ўстанаўляецца відавочная неадпаведнасьць паміж кніжнымі запісамі і натураю.

б) Будынкі і пабудовы падлічаюцца толькі паводле нормаў, паказаных у § 10 гэтай інструкцыі, незалежна ад ужываных раней у данай установе норм ацэнкі і ад даты фондаваньня паказанай катэгорыі маемасьці.

§ 12. Пры інвэнтарызацыі маемасьці трэба ўстанавіць наступнае: а) назву маемасьці, б) колькасьць, в) цану паасобнага прадмету і кошт усіх аднастайных прадметаў.

У адносінах да нярухомай маемасьці трэба ўстанавіць дадаткова наступныя даныя: а) кароткую характарыстыку, б) плошчу і кубатуру.

§ 13. Для ўстанаўленьня аднастайнага падзелу ўнутры паасобных відаў матар'яльных каштоўнасьцяй, трэба пры інвэнтарызацыі ўсю маемасьць падзяліць на наступныя групы:

## А. Будынкі і пабудовы

### 1. Будынкі жылыя

а) мураваныя, б) дзеравяныя, в) мяшаныя.

### 2. Будынкі няжылыя

а) мураваныя, б) дзеравяныя, в) мяшаныя.

### 3. Розныя пабудовы

## Б. Абсталяваньне і інвэнтар

1. Канцылярскае і гаспадарчае абсталяваньне.
(Мэблі, канцылярскія прылады, гаспадарчы інвэнтар і інш.).
2. Транспортная маемасьць.
(аўтамабілі, калёсы, сані, запрэжка і інш.).
3. Бібліатэчная маемасьць.
4. Зброя і прыналежнасьці да яе.
5. Прадметы рэчавага забясьпечаньня
(бялізна, абутак, пасьцельныя прыналежнасьці і інш.).
5. Тэатральная маемасьць.
7. Апараты, машыны, варштаты, інструманты (у тым ліку музыкальныя) і навукова-тэхнічныя прылады.
8. Жывы інвэнтар.

## В. Матар'ялы

1. Тэхнічныя матар'ялы.
2. Апал.
3. Вырабы, прадукты і фураж.
4. Гаспадарчыя матар'ялы.
5. Розныя матар'яльныя каштоўнасьці ў эксплёатацыі.

§ 14. Інвэнтарныя сьпісы складаюцца на групы, а ў межах груп на аднастайныя па кошту, якасьці і назначэньні матар'яльныя каштоўнасьці, з адзначэньнем прысвоеных ім індывідуальных нумароў (а таксама і фабрычных, там, дзе яны ёсьць). Апроч індывідуальных нумароў паказваюцца яшчэ прынятыя інвэнтарызуемымі ўстановамі намэнкля-

турныя нумары для розных груп матар'яльных каштоўнасьцяй (па абсталяваньні і інвэнтару—канцылярскае і гаспадарчае абсталяваньне, транспартная маемасьць і інш., па матар'ялах—тэхнічныя матар'ялы, апал і інш.

§ 15. На ўсіх рэчах (рухомай маемасьці), дзе гэта магчыма, павінны быць адпаведныя адзнакі і паказаны індывідуальны нумар, з якім гэты прадмет запісан. На прадметах мэблі прымацоўваюцца мэталёвыя ярлыкі з штампам установы альбо наклейваюцца папяровыя ярлыкі з пячаткаю ўстановы. Бялізна, вопратка, абутак, пасьцельныя прыналежнасьці і інш. штамплююцца асобнымі пячаткамі з пачатковымі літарамі ўстановы.

§ 16. Інвэнтарныя сьпісы складаюцца для паасобных месц захаваньня ў 2-х экзэмплярах, з якіх адзін астаецца на месцы захаваньня, а другі перадаецца ў бухгальтэрыю.

§ 17. На выяўленыя ў інвэнтарных сьпісах разыходжаньні робяцца аформленыя адпаведнымі дакумэнтамі дадатковыя запісы ў кнігах, прычым недахопы і лішкі пасьля канчатковай выверкі рэгулююцца наступным чынам: а) лішкі запісваюцца на прыход на адпаведныя маемасныя рахункі; б) недахопы, на падставе пастановы распарадчыка крэдытаў, сьпісваюцца, як убытак, альбо ставяцца на асабовы рахунак асобы вінаватай у іх згубе. У першым выпадку робіцца аднаправодка: дэбэт—р-ку фонду ў маемасьці і крэдыт р-ку абсталяваньня і інвэнтару альбо матар'ялаў; у другім—пасьля паказанай праводкі робіцца другая праводка—дэбэт р-ку дэбітораў па дзяржаўных прыбытках, крэдыт р-ку дзяржаўных прыбыткаў (калі недахоп павінен быць зьвернуты грашмі).

*Увага.* а) У функцыянальных установах, дзе рахункаводзтва вядзецца па простай сыстэме, на выяўленыя разыходжаньні робяцца дадатковыя запісы ў матар'яльных кнігах беспасрэдна з актаў адпаведнымі рэзалюцыямі распарадчыка крэдытаў.

б) Пачынаючы з 1929-30 году, інвэнтарныя камісіі не складаюць падрабязных сьпісаў, а толькі акты на выяўленыя лішкі і недахопы паводле ф. № 5 і акты аб выключэньні нягодных прадметаў паводле ф. 3.

§ 18. Распарадчыкі крэдытаў другой ступені пасьля дакладнай праверкі пададзеных ім інвэнтарных сьпісаў складаюць на ўсе віды маемасьці групавыя інвэнтарныя ведамасьці паводле ф. № 4, уключаючы сюды і сваю ўласную маемасьць і ў такім выглядзе накіроўваюць іх галоўнаму распарадчыку крэдытаў. У групавых ведамасьцях, апроч кошту матар'яльных каштоўнасьцяй па групах, павінна быць таксама паказана разыходжаньне паміж данымі кніг альбо картак і натураю.

§ 19. Дакладныя тэрміны інвэнтарызацыі для адміністрацыйных устаноў вызначаюцца цэнтральнымі ўстановамі з такім разьлікам, каб усе матар'ялы па інвэнтарызацыі згрупаваны былі ў цэнтральных апаратах ведамстваў не пазьней 1-XI—таго-ж году, які ідзе пасьля сканчэньня справаздачнага году.

Намесьнік Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Намесьнік Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыіі БССР **П. Віленстовіч.**

Дадатак № 1. Форма № 1.

# СЬПІС

будынкаў і пабудоў ........................................ на 1/X 192   г.

| Чарг. №№ | Назва груп (§ 13 інстр.) | Назва пабудоў і кароткая характарыстыка | Іх прызначэньне | Месца знаходжаньня | Плошча, кубатура | КОШТ: Паводле даных кніг ці картак на 30/IX | КОШТ: Паводле даных інвэнтарызацыі на 1/X | РОЗЬНІЦА: Больш | РОЗЬНІЦА: Менш | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | | | | | |

*Увага.* У графе 11 паказваюцца нормы ацэнкі (па даваеннай, вуроч. палажэньні, па запісах фактычнага выдаткаваньня і інш.), а таксама даныя аб стане маемасьці.

Дадатак № 2. Форма № 2

# СЬПІС

маемасьці (інвэнтару, матар'ялу) ........................................ на 1/X 192   г.

| Чарг. №№ | Назва груп (§ 13 інстр.) | Назва пасобных прадметаў | №№ індывідуальн. | №№ фабрычныя | Лічылася: Кольkасьць | Лічылася: Цана | Лічылася: Сума | Выўялена: Кольkасьць | Выўялена: Цана | Выўялена: Сума | Лішкі: Кольkасьць | Лішкі: Цана | Лішкі: Сума | Недахопы: Кольkасьць | Недахопы: Цана | Недахопы: Сума | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | |

Дадатак 3.
Форма № 3.

# АКТ

аб выключэньні маемасьці (інвэнтару, матар'ялаў), складзены

„ “..................................192.........г.

| Чарг. №№ | Назва ґруп і выключаных прадметаў | №№ індывідуальн. | №№ фабрычныя | Колькасьць | Цана | Сума | Прычыны выключэньня | № старонкі інвэнтарн. кніг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |

Дадатак 4.
Форма № 4.

# ЗБОРНЫ СЬПІС

маемасьці ў..................................на 1/X—192.........г.

| Чарг. №№ | Назва маемасьці па групах (§ 13 інструкцыі) | Лічылася ў кнігах ці ў картках на 30/IX | Выявілася на 1/X (па дан. інвэнт.) | Розьніца | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Больш | Менш | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |

УВАҐА. У гр. 7 паказваюцца прычыны разыходжаньняў паміж данымі на 30/IX і 1/X.

Дадатак 5.
Форма № 5.

# ВЕДАМАСЬЦЬ

недахопаў і лішкаў маемасьці ў ............ на 1/X—192 .... г.

| Чарг. №№ | Назва груп (§ 13 інструкц.) | Назва паасобных прадметаў | №№ індывідуальн. | №№ фабрычныя | Месца знаходжаньня | Колькасьць | Цана | Сума | | № старонкі інвэнтарнай кнігі | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Па натуры (лішкі) | Па кнігам ці карткам (недахопы) | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

УВАГА. а) У гр. 11 паказваюцца №№ стар. інвэнтарн. кніг ці картак пасьля сьпісаньня, як убытку, недахопаў альбо запрыходваньня лішкаў.

б) У гр. 12 паказваюцца прычыны разыходжаньня паміж натураю і бухгальтэрскімі запісамі, а таксама падставы ацэнкі выяўленых лішкаў (*дакумэнты ці інш.*).

Адказны рэдактар **М. Мароз.**

